13 сакавіка 2015 | № 10 (427)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Вясёлы талібан»
стар. 13

4 ВЫ — НАША УКРАІНА

«Украіна нам нічым не дапамагла», — кажа, рыдаючы, старэнькая жанчына, у якой нічога не засталося ад дома. «Ну як жа, колькі вам валанцёры прынеслі», — спрачаецца Мімоза Давыдаўна. «Гэта ўсё дзякуючы вам. Вы — наша Украіна», — гаворыць бабулька

6 БАРАНІЦЬ СВАЁ, КАБ НЕ ДАЙСЦІ ДА ТОРБЫ

Тамара Скрабец цяпер ужо шкадуе, што прадала ў свой час кватэру ў Мінску ды з’ехала з мужам жыць у вёску Каменка Уздзенскага раёна

11 ЯК ПАСТРЫГЧЫ ДЫКТАТАРА?

Новая прычоска Кім Чэн Ына стала адной з самых папулярных тэм у сусветных СМІ і выклікала незвычайныя дэбаты пра ролю прычосак для дыктатараў і лёсаў іх рэжымаў

14 ДЗЯДЗЬКА РЫГОР. ДЗЁННІК ВЫБРАНЫХ СУСТРЭЧ СЯРГЕЯ ШАПРАНА



У гэтыя дні на Кастрычнікай плошчы ў Мінску начуюць людзі — на знак пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў...

# Мухі асобна — 2

## Пуцін не кідае надзеі эканамічнай экспансіі на постсавецкай прасторы



Сяргей ПУЛЬША

Створаны нядаўна ЕАЭС надаў імпэту расійскаму прэзідэнту па пашырэнні ўплыву на сябраў ЕАЭС, Мытнага саюза і яшчэ шматлікіх агульных арганізацый. Але нічога новага ён не прыдумаў. Ён вярнуўся да старой ідэі агульнай валюты. Яшчэ пры абмеркаванні стварэння самога ЕАЭС у мінулым годзе эксперты і палітыкі ставілі пад сумнеў з’яўленне такой грашовай адзінкі. Казалася пра тое, што яна можа з’явіцца не раней за 2025 год.

Аднак Пуцін спяшаецца, і на тыдні ён даручыў свайму Цэнтрабанку і ўраду прапрацаваць мэтазгоднасць стварэння валютнага саюза ў рамках ЕАЭС. «Банку Расіі сумесна з урадам РФ ва ўзаемадзеянні з цэнтральнымі (нацыянальнымі) банкамі дзяржаў-сябраў Еўразійскага эканамічнага саюза вызначыць далейшыя напрамкі інтэграцыі ў валютнай і фінансавай сферах у рамках ЕАЭС з прапрацоўкай мэтазгоднасці і магчымасці стварэння ў перспектыве валютнага саюза», — гаворыцца ў даручэнні Пуціна.

Адрапартаваць пра выкананне даручэння кіраўнік урада Расіі Дзмітрый Мядзведзеў і кіраўнік ЦБ РФ Эльвіра Набіўліна павінны да 1 верасня 2015 года.

Такая паспешлівасць расійскага прэзідэнта відавочна збянтэжыла ягоных калегаў у Казахстане і Беларусі. Намер утварыць валютны саюз у рамках ЕАЭС прысутнічаў у праекце дэкларацыі аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі з паметкай «прапанова расійскага боку, казахстанскі бок супраць». У канчатковым тэксце дэкларацыі, падпісаным прэзідэнтамі трох краін 18 лістапада 2011 года, паказваецца толькі «паглыбленне супрацоўніцтва ў валютнай сферы».

Падчас прэс-канферэнцыі пасля падпісання дэкларацыі Назарбаеў растлумачыў, што гаворка ідзе аб пашырэнні выкарыстання нацыянальных валют ва ўзаемным гандлі трох краін з магчымым у перспектыве «выхадам на нейкую адзінку ў сэнсе валюты», пры гэтым пазначыўшы, што ні адна валюта краін-удзельніц ЕАЭС не падыходзіць на гэтую ролю.

Што да пазіцыі па гэтым пытанні Аляксандра Рыгоравіча, то 29 студзеня падчас вялікай прэс-канферэнцыі ён казаў, што пытанне адзінай валюты ў межах ЕАЭС «у парадку дня не стаіць». Наш кіраўнік растлумачыў, што для разгляду «адзінавалютнага» пытання трэба спачатку вырашыць увесь комплекс эканамічных пытанняў, у тым ліку і тых, якія ў межах стварэння ЕАЭС былі адкладзеныя да 2025 года. Вось калі з імі разбярэмся — можна і пра алтын падумаць.

«Але не думаю, што гэта будзе заўтра і пры маім прэзідэнцкім жыцці», — дадаў Лукашэнка. Улічваючы, якім чынам працягваецца прэзідэнцкае жыццё Аляксандра Рыгоравіча, то гэтая фраза фактычна азначае — ніколі.

Па меркаванні эканамістаў, пытанне пра адзіную валюту ў межах ЕАЭС, які працуе ўсяго два з паловай месяцы, сапраўды недарэчнае. Нават у варунках значна больш абкатанага Мытнага саюза адзіная валюта ёсць праблемай.

Эканаміст Сяргей Чалы зазначае: пакуль не выкананы ніводзін з шэрагу крытэраў, якіх павінна дасягнуць інтэграцыйнае аб’яднанне, каб у ім можна было ўводзіць агульную валюту. Найперш неабходна, каб паміж краінамі, якія ўтвараюць валютны саюз, былі вялікія аб’ёмы гандлю. Зараз жа нават




**Пытанне пра адзіную валюту ў межах ЕАЭС недарэчнае**

у межах Мытнага саюза доля ўнутранага гандлю паміж «саюзнікамі» не тое што не расце, а нават скарачаецца. З «трэцімі краінамі» мы гандлюем больш, чым з «саюзнікамі». Таксама добра было б, каб у краін, якія ствараюць валютны саюз, былі сінхранізаваныя бізнэс-цыклы, то бок спады і ўздымы эканомікі. Гэтага амаль немагчыма дамагчыся, калі Казахстан і Расія — сыравінныя, а эканоміка Беларусі — цалкам перапрацоўчая. І апошні пункт самы важны: адзіны Цэнтрабанк і адзіная грашова-крэдытная палітыка.

Нагадаем, што яшчэ ў 2002 годзе ішлі размовы пра адзіную валюту Беларусі і Расіі. Расія настойвала, каб Цэнтрабанк быў адзін, і ён быў бы ў Маскве. З гэтым катэгарычна не пагаджаўся Аляксандр Рыгоравіч. Па ягоным меркаванні, эмісійных цэнтраў павінна было быць два — у Маскве і Мінску. То бок, каб Мінск таксама мог бы друкаваць грошы Саюзнай дзяржавы. На гэта Масква пагадзіцца не магла катэгарычна — бескантрольны друк грошай у Мінску мог абрынуць усю расійскую эканоміку.

Менавіта ў гэтым заграз праект Канстытуцыйнага акту Саюзнай дзяржавы. Менавіта з-за гэтага тады раз’юшыўся Уладзімір Уладзіміравіч. Менавіта тады ён параіў Аляксандру Рыгоравічу падумаць, чаго ён хоча: інтэграцыі ў Расію, альбо нечага іншага? Ён нагадаў, што эканоміка Беларусі — гэта 3% ад эканомікі Расіі, і зазначыў, што нельга спрабаваць аднавіць СССР за кошт эканамічных інтарэсаў Расіі. І тады ж прамовіў вядомую сваю крылатую фразу: «Мухі асобна — катлеты асобна».

Зараз Пуцін, не параіўшыся з калегамі, пачаў новую фазу ўводу «адзінай валюты». І зараз жа Лукашэнка з Назарбаевым могуць прыгадаць яму ягоныя ж словы пра мух і катлет. Мауляў, пакуль не будуць канчаткова зняты абмежаванні ў гандлі, пакуль нафта ў Расіі і Беларусі не будзе каштаваць аднолькава — выбачайце, якая можа быць адзіная валюта? Мухі асобна — катлеты асобна.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. На грамадскае абмеркаванне пусцяць толькі па пашпарце



**Грамадскае абмеркаванне будзе праходзіць не ў афіцыйным будынку, а проста на вуліцы — каля абласной бібліятэкі імя Леніна.**

Іўсё адно гарвыканкам папярэджвае: пашпарт або іншае пасведчанне асобы пры сабе мець неабходна.

Што ж такое ўлады збіраюцца абмяркоўваць з гараджанамі, што будзе спраўджваць асабістыя звесткі? Усяго толькі вырубку чатырох дрэваў і некалькіх кустоў каля бібліятэкі. Бо гарвыканкам запланаваў правесці тут «добраўпарадкаванне і азеляненне тэрыторыі ў межах праграмы «Зялёны горад».

Да «добраўпарадкавання» шляхам знішчэння каштоўных дрэваў, каб потым наноў праводзіць «азеляненне», віцябляне ставяцца вельмі негатыўна. Гэтым, відаць, і выкліканы загад мець пры сабе дакументы: гарвыканкам хоча ведаць імёны і прозвішчы незадаволеных.

Асабліва шмат незадавальнення жыхары горада выказалі ў 2009 годзе, калі па загадзе тагачаснага старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца была праведзена рэканструкцыя плошчы Перамогі, падчас якой знішчылі парк з рэдкімі дрэвамі. Некалькі гадоў, пакуль на плошчы вяліся працы, віцябляне папракалі ўлады за ліквідаваную зялёную зону, не забыліся на гэта і да цяперашняга часу, калі ўсю плошчу замасцілі пліткай, а па перыметры пасадзілі туі. Прычым садзілі двойчы, бо з першага разу большасць дрэваў не прыжылася.

Грамадскае абмеркаванне многія гараджане ўхваляюць. Але чаму з «пашпартным улікам». Ці адважацца людзі пярэчыць ініцыятыве ўладаў, калі перад тым перапішуць іх прозвішчы? Верагодна, пад пагрозай магчымых наступстваў будуць маўчаць або ўвогуле праігнаруюць імпрэзу.

Усе ранейшыя грамадскія абмеркаванні ў Віцебску праводзіліся «ананімна»: людзі проста знаёміліся з праектамі і выказвалі свае прапановы. Улады яшчэ ні разу не спрабавалі паймённа адсачыць удзельнікаў і персанальна пракантраляваць іх выказванні.

### ГОМЕЛЬ. Яшчэ два пратаколы складзены на журналістку



**12 сакавіка гомельскую журналістку Ларысу Шчыракову аштрафавалі на 20 базавых велічынь нібыта за парушэнне артыкулу 22.9 КаАП (парушэнне заканадаўства аб СМІ).**

Нагадаем, 8 сакавіка гомельскія міліцыянеры «павіншавалі» журналістку з Міжнародным жаночым днём, склаўшы пратакол таксама па артыкуле 22.9 КаАП.

У Рэчыцы міліцыянеры як доказ віны ў здзяйсненні правапарушэння прад'явілі Ларысе Шчыраковай сюжэты з тэлеканалу «Белсат» за 2 і 16 лютага, якія тычыліся пратэстаў прадпрымальнікаў на мясцовых рынках. Таксама міліцыянеры азнаёмілі журналістку з апытаннямі прадпрымальнікаў, якія пацвердзілі, што сапраўды Ларыса Шчыракова здымала відэа на іх рынку. Нагадаем, і пратакол па артыкуле 22.9 КаАП, складзены ў Гомелі, таксама быў заснаваны на апытанні прадпрымальнікаў гомельскага рынку «Цэнтральны». У сюжэце ішла гаворка пра падвышэнне падаткаў і стаўленне да гэтага кроку прадпрымальнікаў.

«Гэта можна расцаніць як зачыстку медыйнага поля напярэдадні выбараў. Таксама, можа, нездарма прыцягваюць да адказнасці за сюжэты пра пратэсты прадпрымальнікаў, бо гэта зараз адна з важных тэм. Прадпрымальнікі праяўляюць сацыяльную актыўнасць, незадаволенасць умовамі працы, а ўлада не любіць, калі такія сюжэты выходзяць у СМІ», — пракаментавала Ларыса Шчыракова.

### ГРОДНА. Прадстаўнікі ПБНФ хочуць адзначыць Дзень Волі



**Прадстаўнікі Гродзенскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ падалі дзве заяўкі ў мясцовы гарвыканкам на правядзенне Дня Волі.**

Адна заяўка пададзена на правядзенне інфармацыйнага пікету непасрэдна 25 сакавіка ў цэнтральным гарадскім парку імя Жылібера. Другая заяўка пададзена на пікет 22 сакавіка ў больш аддаленым Каложскім парку. Абедзве заяўкі падпісаныя старшынёй гарадской арганізацыі Партыі БНФ Вадзімам Саранчуковым.

У Гродна ўжо больш за дзесяць гадоў ніхто з прадстаўнікоў грамадска-палітычных рухаў не можа атрымаць права на правядзенне нейкай публічнай акцыі. Тых жа актывістаў, якія спрабуюць нешта правесці, апошнія гады затрымліваюць і караюць.

**Паводле spring96.org**

# Пачалі паляванне на праваабаронцаў

**Пад пагрозай ліквідацыі — Магілёўскі праваабарончы цэнтр, адзіная ў Беларусі зарэгістраваная рэгіянальная праваабарончая арганізацыя.**

10 сакавіка ў Магілёўскім абласным судзе пачаўся разгляд іску галоўнага ўпраўлення юстыцыі аблвыканкама аб ліквідацыі арганізацыі. Фармальная прычына — адсутнасць юрыдычнага адрасу.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі з гэтай нагоды зазначыў, што ўлады шукаюць дробныя фармальныя прычыны, каб спыніць дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў.

Як сцвярджаецца ў іску, грамадскае аб'яднанне «МПЦ» з 5 снежня 2014 года не размяшчалася па адрасе, які пазначаны ў ягоным Статуце, бо дамова арэнды была скасаваная арэндадаўцам «у аднабаковым парадку».

Кіраўнік магілёўскага праваабарончага цэнтру Уладзімір Краўчанка кажа, што на арэндадаўцу ціснуць: «Дамова арэнды заключаная на год. Такая дамова можа быць скасаваная толькі па згодзе бакоў. Нашай згоды няма. Тым не менш арэндадаўца перастаў нам выстаўляць рахункі і напрамілы бог папрасіў сысці, бо на яго цісне КДБ. Ён баіцца, што пачнуцца праверкі санстанцыі, пажарных ды іншых».

Старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі кажа, што з усіх грамадскіх аб'яднанняў больш за ўсё ціснуць менавіта на праваабарончыя. Усе праваабаронцы — пад пільным кантролем уладаў, асабліва ў рэгіёнах: «У гродзенскага праваабаронцы Сазонава пастаянна нейкія праблемы: то на мяжы яго правяраюць, то нейкія ананімныя пагрозы яму ідуць у сацыяльных сетках. У Магілёве з рэгістрацыяй праваабарончага цэнтру праблемы. У Віцебску, калі журналісты фатаграфаваліся з птушкамі ў клетках, Паўла Левінава, які прадстаўляе БХК, аштрафавалі. Так што праваабаронцы ў рэгіёнах — на пярэднім краі барацьбы за правы чалавека. І што яшчэ характэрна — шмат каго з іх павыганялі з працы. Такі метад ціску, як пазбаўленне працы, дзейнічае ў першую чаргу ў адносінах да палітычных актывістаў і праваабаронцаў. Таму, канечне, яны там бядуюць».

**Паводле Радыё «Свабода»**

# «Крывічы» — за бясплатнае донарства

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Зрабіць бясплатнае донарства больш распаўсюджаным ставіць на мэце новая грамадзянская ініцыятыва «Крывічы».**

Калі людзьмі кіруе толькі матэрыяльная зацікаўленасць, лічаць ініцыятары кампаніі, то існуе і рызыка нядобрасумленных донараў.

«Уся кроў, якая паступае ад донараў, пэўны тэрмін знаходзіцца на карантыне, — адзначыла арганізатар праекта Алёна Шыбут. — Але, каб наогул выключыць усялякія рызыкі, варта было б зніжаць парог матэрыяльнай зацікаўленасці. І прыцягваць менавіта тых людзей, для якіх донарства — у першую чаргу сацыяльная адказнасць. Трэба проста распавесці людзям аб тым, чаму неабходна донарства. Незалежна ад таго, плацяць за гэта грошы альбо не», — лічыць Алёна Шыбут.

А дадатковыя сродкі, якія вызваляюцца пры бясплатным донарстве, патрацяць, напрыклад, на закупку новага абсталявання і тэст-сістэм.

Большасць донараў крыві ў Беларусі — людзі старэйшага ўзросту (40–50 гадоў). Таму арганізатары кампаніі імкнуцца як мага шырэй распавесці пра донарства моладзі. Інфармацыя для донараў і тых, хто хоча дапамагчы праекту, змешчана на сайце krivichy.org

«Людзі адгукаюцца, — сказала Алёна Шыбут. — У групы і сацыяльныя сеткі да нас заходзяць і ўдзельнічаюць у абмеркаваннях і донары, і тыя, хто ні разу не здаваў кроў. І для пачатку мы хочам проста пашыраць нашу інфармацыйную базу, даць адказы на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць у звязку з донарствам крыві».

Назва «крывічы», паводле адной з версій, паходзіць ад слова «крэўныя» — блізкія па крыві, парадняёныя. Таму, на думку ініцыятараў кампаніі, можна сказаць, што дзякуючы донарам беларусы ў пэўным сэнсе зноў становяцца крывічамі. У кожнага донара з'яўляецца колькі крэўных сваякоў, якія абавязаныя яму жыццём.

«Мы імкнёмся зараз апеляваць да гэтага пачуцця ўзаемадапамогі, — зазначыла Алёна Шыбут. — Усе мы жывем разам, усім нам трэба дапамагаць адзін аднаму. І можа нават не патрабаваць за гэта штосьці ўзамен».

# Што рабіць беларусам з еўра?

Генадзь КЕСНЕР

**Аналітыкі Deutsche Bank Робін Уінклер і Джордж Саравелас прагназуюць, што да 2017 года еўра абрынецца адносна долара да 85 амерыканскіх цэнтаў.**

Паводле прагнозаў, ужо да канца бягучага года еўра дасягне парытэту з доларам, праз год еўрапейская валюта будзе каштаваць 90 амерыканскіх цэнтаў, а ў 2017 годзе — 85 цэнтаў. Нагадаем, што зараз 1 еўра каштуе 1,06 долара. Што рабіць тым беларусам, што маюць заначку менавіта ў еўрапейскай валюце? Чаму еўра так імкліва губляе сваю вартасць?

З пункту гледжання фінансавага аналітыка афіцыйнага партнёра «Альпары» ў Мінску Вадзіма Іасуба, еўра можа падаць да таго часу, пакуль Еўрапейскі цэнтральны банк (ЕЦБ) будзе праводзіць палітыку колькаснага змякчэння, палітыку выкупу актываў з рынка. Прасцей кажучы, будзе працягваць друкаваць наяўныя еўра. Або, па меншай меры, пакуль ЕЦБ не заявіць пра завяршэнне гэтай аперацыі, якая акурат вось толькі і пачалася.

«Паводле першапачатковых разлікаў, ЕЦБ плануе друкаваць грошы да верасня 2016 года, прычым, як заяўляюць еўрапейскія грашовыя ўлады, пры неабходнасці гэтая аперацыя можа быць падоўжана. Сыходзячы з гэтага, я дапускаю, што ў найбліжэйшыя паўтара гады, калі нават еўра не будзе працягваць сваё падзенне, то пра ягоны рост да тых мінімумаў, да якіх ён паспее абрынуцца, казаць не даводзіцца, — адзначае эксперт. — Сыходзячы з гэтага, калі людзі маюць назапашванні ў еўра, і далягляд гэтых назапашванняў дастаткова кароткі, то бок, яны збіраюць на нешта грошы і мяркуюць іх выдаткаваць у найбліжэйшыя год-паўтара, то ў дадзеным выпадку можна толькі пашкадаваць, што яны не пазбавіліся ад еўра раней, і трэба пазбаўляцца ад еўра цяпер. Бо, верагодна, і надалей еўра будзе толькі таннець. Але калі ў кагосьці доўгатэрміновыя зберажэнні, даляглядз якіх распаўсюджваецца на дзесяцігоддзі, то ў такіх выпадках мае сэнс падзяліць свае назапашванні паміж доларамі і еўра і чакаць, што ў бліжэйшыя гады еўра будзе падаць, але раней ці пазней ён пачне даражэць».

А навошта ж ЕЦБ робіць такія рэчы, абрынаючы еўрапейскую валюту? Дзеля таго, каб выратаваць і ажывіць еўрапейскую эканоміку, кажа суразмоўца. «У еўрапейскай эканоміцы хапае праблемаў: дастаткова высокае беспрацоўе — амаль удвая болей, чым у ЗША, нізкі эканамічны рост, пагроза дэфляцыі. І дзеля таго, каб справіцца з гэтымі праблемамі, Еўрапейскі цэнтрабанк распачаў праграму колькаснага змякчэння. Гэта тая праграма, якая дала свае станоўчыя вынікі ў ЗША, часткова ў Вялікабрытаніі, зараз падобную аперацыю праводзіць Банк Японіі. То бок, дзеянні ЕЦБ знаходзяцца ў рэчышчы таго, як апошнія гады цэнтральныя банкі змагаюцца з рэцэсіяй і пагрозай дэфляцыі», — падкрэсліў Вадзім Іасуб.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# На пазітыве

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё больш са старонак газет і экранаў тэлевізараў ільецца негатыву. Але на гэтым тыдні было шмат пазітыўных навінаў, і ўвогуле, такога пазітыўнага тыдня не было даўно.**



Напрыклад, Міністэрства эканомікі нарэшце зразумела, што ВУП — гэта не «наша ўсё». Асабліва такі ВУП, які лічыцца ў нас — па створанай, а не прададзенай прадукцыі. А таму гэты паказчык трэба карэктаваць. Міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі выступіў супраць разгону ВУП у бліжэйшую пяцігодку. «Накачка ВУП за кошт унутранага попыту, неэфектыўнага крэдытавання, неакупальных інвестыцый недапушчальная», — заявіў Зіноўскі падчас пасяджэння Саўміна, дзе абмяркоўвалася канцэпцыя праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2016–2020 гады. «Патрэбны пераход да якаснага эканамічнага росту, а ён наўпрост залежыць ад чалавечага фактару (макраэканамічнай стабільнасці, інвестыцый, новых тэхналогій і працоўных месцаў) і ў цэлым ад эфектыўнай сістэмы кіравання эканомікай», — заявіў міністр эканомікі.

Сказаўшы «а», трэба казаць і «бэ» — то бок паведаміць, адкуль узяцца ў краіне інвестыцыям, новым тэхналогіям і макраэканамічнай стабільнасці. Пра гэта Зіноўскі, канешне, не паведаміў, але будзем спадзявацца, што і над гэтым «бэ» ва ўрадзе падумаюць.

Што да макраэканамічнай стабільнасці, то і тут ёсць падстава для аптымізму. Згодна з дадзенымі Белстата, інфляцыя ў Беларусі за люты запаволілася да 1,7% з 2,4% у студзені. Харчовыя тавары ў лютым падаражэлі на 2,3%. Найбольш значна ў лютым павялічыліся цэны на садавіну — на 17,2%, алей — на 12% і крупы і бабовыя — на 4,6%. Цэны на нехарчовыя тавары выраслі на 0,7%. Лідарамі росту сталі ровары і матацыклы — 3,7%, медыкаменты — 2,3% і бытавыя электратавары — 2,2%. Цэны і тарыфы на платныя паслугі павялічыліся на 2%, тут найбольшы кошт традыцыйна паказвае ЖКГ — 7,1%, у тым ліку 14,2% тэхабслугоўванне жылых дамоў, 8,8% — электразабеспячэнне і 5,8% — водазабеспячэнне.

Але аптымізм пакуль што асцярожны. За два месяцы бягучага года спажывецкія цэны выраслі на 4,1%. Трэба запавольваць рост коштаў і далей, інакш мы не ўкладземся ў планаваныя 18% інфляцыі на год. Але ўлічваючы, што гэты прагноз дапускае люфт у плюс-мінус 2%, то і з такімі паказчыкамі мы маем шанец укласціся ў 20% інфляцыі.

Мараторый на рост коштаў, які дзейнічаў у студзені гэтага года пры наяўнай 40-працэнтнай дэвальвацыі становіча адбіўся на знешнегандлёвым сальда Беларусі. Паводле Нацбанка, станоўчае сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі ў студзені 2015 склала $623 мільёны. Характэрна, што рэзкага плюсу ўдалося дасягнуць менавіта за кошт зніжэння імпарту. Знешнегандлёвы абарот тавараў і паслуг у студзені знізіўся на 30,7% у параўнанні з аналагічным перыядам, пры гэтым экспарт тавараў і паслуг упаў на 22,7%, а імпарт знізіўся на 39,1%.

Больш паказальнымі, канешне, будуць дадзеныя за люты, якіх яшчэ няма. Бо ў лютым улады захавалі абмежаванні на рост коштаў, аднак імпарцёрам было дазволена павышаць цэны на фоне змены курсу беларускага рубля. Так што пачакаем канца сакавіка, калі Нацбанк падаб'е лічбы за апошні зімні месяц.

Скончылася і валютная паніка. Праўда, «паказчык дабрабыту» тут хутчэй трывожны. Бо, як сведчыць показка, у беларуса ёсць тры фінансавыя становішчы: «грошай няма», «грошай няма зусім» і «трэба мяняць валюту». У лютым насельніцтва Беларусі прадало на чыстай аснове наяўнай і безнаяўнай валюты на суму $55,6 мільёна. Нагадаем, у студзені была зафіксавана чыстая купля ў $30,2 мільёна.

Гэта значыць, што беларусы панеслі грошы ў абменнікі, то бок іх персанальнае фінансавае становішча пагоршылася. Тым не менш, за гэтыя грошы яны ж нешта і набывалі, стымулюючы тым самым родную эканоміку і прадаючы тыя замежныя грошы, што набылі ў студзені.

Далі пэўны плён і нашы міратворчыя дзеі ў дачыненні да канфлікту на Данбасе ў сукупнасці з амерыканскімі высілкамі па згортванні ядзернай праграмы Ірана. ЗША адмянілі санкцыі, уведзеныя супраць «Беларуснафты» ў 2011 годзе.

Санкцыі супраць беларускай кампаніі былі ўведзеныя пасля таго, як улады Беларусі захапіліся праектам нафтаздабычы ў Іране на радовішчы Джафейр, падпісаўшы з іранскай дзяржкампаніяй NaftIran Intertrade Company (NICO) кантракт на $500 мільёнаў. У ЗША палічылі, што даходы, атрыманыя ад продажаў нафты з гэтага радовішча, стануць крыніцай фінансавання іранскай ядзернай праграмы.

Санкцыі ў адносінах да «Беларуснафты», як вынікае з паведамлення Дзяржздэпу ЗША, знятыя ў сувязі з тым, што «прадпрыемства больш не ўцягнутае ў дзейнасць, на якую распаўсюджваюцца санкцыйныя абмежаванні, а таксама дало гарантыі, што не будзе займацца падобнай дзейнасцю ў будучыні».

Праўда, гэтае зняцце санкцый, якое ўступіла ў моц ужо з 25 лютага, «Беларуснафце» не вельмі дапаможа. Гэта, хутчэй, палітычнае рашэнне, так бы мовіць, азначэнне, што з боку ЗША магчымы крок насустрач Беларусі. Бо «Беларуснафта» ўваходзіць у канцэрн «Белнафтахім», а ў дачыненні да канцэрна па-ранейшаму застаюцца ў сіле санкцыі, уведзеныя яшчэ ў 2007 годзе.

І на заканчэнне можна сказаць, што да нас своечасова, згодна з календаром, прыйшла вясна. Грамадскае аб'яднанне «Ахова птушак Бацькаўшчыны» зафіксавала ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці першага бусла, які вярнуўся ў нашу краіну з цёплых краёў. Як адзначаў спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях АПБ Сямён Левы, буслы — адны з самых далёкіх нашых мігрантаў, яны далятаюць нават у Паўднёвую Афрыку, пры гэтым даўжыня шляху можа дасягаць 9,5 тысяч кіламетраў. Звычайна птушкі ляцяць не над адкрытым морам, а праз пralівы. На шляху да месцаў зімоўкі і назад ім таксама трэба пераляцець самую вялікую пустыню свету — Сахару.

Паводле «Аховы птушак Бацькаўшчыны» ў нашу краіну ўжо вярнуліся палявыя жаваранкі, кнігаўкі і шпакі, шмат відаў вадаплаўных птушак. Таксама адзначаны пявучы дрозд, аўсянка трысняговая, завірушка лясная, вялікі голуб (вехіра) і некаторыя іншыя віды. Наступнай пасля бусла павінна прылецець з зімоўкі вясковая ластаўка.

А значыць, вясна да нас прыйшла ўжо канчаткова. Птушак не падманеш.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Кузьміч



**На міжнароднай выставе ў Латвіі брэсцкі ювелір, мастак-эмальер увайшоў у пяцёрку лепшых майстроў свету, якія працуюць у гэтай унікальнай тэхніцы.**

Мікалая Кузьміча ведаюць як аўтара вядомай копіі крыжа Ефрасінні Полацкай. Сярод яго шматлікіх работ — таксама рака Прападобнай Ефрасінні і стаўратэка — спецыяльны футарал для крыжа.

А сярод шматлікіх узнагарод і званняў Мікалая Кузьміча: «Чалавек стагоддзя», лаўрэат прэміі прэзідэнта Беларусі «За духоўнае адраджэнне», кавалер Ордэнаў Святога князя Уладзіміра і Крыжа прападобнай Ефрасінні Полацкай.

Сам мастак сцвярджае, што яго больш захапляе не выніковая праца, а сам творчы працэс. Ён плануе працаваць, пакуль будуць сілы.

## Мікалай Аўтуховіч



**Улады ўсё ніяк не адчэпяцца ад былога палітвязня і экс-прадпрымальніка з Ваўкавыску.**

Падатковая інспекцыя патрабуе ад Аўтоховіча выплаціць абавязковыя страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва за той час, які ён сядзеў у турме.

Згодна з прысудам ад 7 ліпеня 2006 года, калі прадпрымальнік быў асуджаны першы раз на 3 гады і 6 месяцаў зняволення, Аўтуховічу было забаронена займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю на працягу 5 гадоў. 8 лютага 2009 года яго зноў затрымалі і ў 2010 годзе асудзілі на 5 гадоў па арт. 295 ч. 3 — «Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў». Дадатковa Аўтуховіч далі яшчэ 2 месяцы зняволення, бо нібыта новае злачынства ён здзейсніў, не адбыўшы 2 месяцы з папярэдняга пакарання. Пры гэтым ваўкавыскія чыноўнікі сцвярджаюць, што быць прадпрымальнікам Аўтуховічу не забаронена, і што гэты 5-гадовы тэрмін забароны на дзейнасць скончыўся ў турме.

Падаткавікі спасылаюцца на нормы Указа кіраўніка дзяржавы №87, дзе гаворыцца, што абавязковыя страхавыя ўзносы не выплачваюцца прадпрымальнікам, які афіцыйна спыніў сваю дзейнасць і быў выключаны з рэестра плацельшчыкаў падатку. Будучы ў турме, Аўтуховіч не мог «афіцыйна спыніць сваю дзейнасць», а значыць, нібыта быў прадпрымальнікам і павінен быў сплачваць абавязковыя страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны.

## Юрый Жаўноў



**Беларускі галкіпер устанавіў рэкорд у чэмпіянаце Расіі па футболе.**

Маскоўскае «Тарпеда», за якое выступае брамнік, згуляла ў Пермі з мясцовым «Амкарам» унічыю — 0: 0. На полі ўвесь матч адыграў Жаўноў. І гэты матч стаў ягоным 155-м «сухім» матчам — гэта абсалютны рэкорд сярод усіх беларускіх брамнікаў. То бок, за 155 матчаў ён не прапусціў ніводнага голу.

У бліжэйшага пераследніка Жаўнова, Валерыя Шанталосава, які ўжо завяршыў гульнявую кар'еру, — 143 «сухія» гульні. З дзеючых варатароў найбольш блізка да Жаўнова падабраўся Аляксандр Суліма, у якога на рахунку 137 матчаў без пропуску галоў.

Варта зазначыць, што ў Расіі выступае найбольшая колькасць беларускіх легіянераў — 13 футбалістаў. Максім Жаўнерчык, які выступаў за «Кубань», вярнуўся на радзіму і падпісаў кантракт з БАТЭ, а ў расійскай прэм'ер-лізе яго змяніў Уладзімір Карыцька, які падпісаў кантракт з тульскім «Арсеналам». Беларускія футбалісты, як правіла, абараняюць колеру клубаў з ніжняй часткі табліцы.

# Вы — наша Украіна

Зміцер ГАЛКО

**Марыупаль нельга назваць фарпостам украінства. Тут амаль не чуваць і не відаць украінскай мовы. Нават на занятках па патрыятычнаму выхаванню для ўдзельнікаў марыупальскай самаабароны па-ўкраінску размаўляла толькі выкладчыца і хіба адзіндва чалавекі з болей чым дваццаці слухачоў.**


Дзяўчаты-ліцэісткі ў Фондзе дапамогі дзецям Данбаса


Сталовая пры царкве

Таццяна Міхайлаўна, украінскі філолаг, якая чытала лекцыю на тэму «Мова — душа нацыі», была ў захапленні ад аўдыторыі — такога станоўчага водгуку, па яе словах, яна ніводнага разу не адчувала за дзевятнаццаць гадоў працы ў марыупальскім універсітэце. Ніводнага разу за дзевятнаццаць гадоў… Аўдыторыя ў гэтым факце, які так цешыў выкладчыцу, убачыла хутчэй нагоду для расчаравання.

## Цю!

Патрыятычная сімволіка, якую развешвае горад, ужо далёка не так актыўна псуецца ненавіснікамі, як паўгода таму, калі я быў тут мінулым разам, але і сваёй для гараджанаў яна не стала. Яе вельмі рэдка можна сустрэць на мінаках, у машынах, на балконах і будынках прыватных установаў. Адкрыта яе дэманструюць толькі байцы добраахвотніцкіх батальёнаў і чальцы мясцовай самаабароны. Калі раптам сустракаеш яе на звычайных грамадзянах, яна рэзка кідаецца ў вочы і ўспрымаецца як выклік.

На вуліцы ўжо не пачуеш гнеўных размоваў пра «бандэраўцаў», хаця тлумачэнне гэтаму можа быць рознае. Ці то яны аказаліся не такімі ўжо страшнымі, ці то гараджане адчуваюць боязь перад уяўнымі рэпрэсіямі з іх боку за нядобранадзейнасць. Зрэшты, калі чалавека са стрэльбай зачапіць баяцца, фразы кшталту: «Як ужо надакучыла гэтая Украіна», «Украіна нам нічога не дала», «Украіна ў нас толькі забірае» і да т.п. пачуць можна, і вельмі часта.

Распаўсюджанасць антыўкраінскіх настрояў адмаўляе хіба генеральны дырэктар ахметаўскага заводу «Азоўсталь» Энвер Цкіцішвілі. Паводле яго словаў, Рынат Ахметаў літаральна выратаваў горад, у прыватнасці, праз мэтанакіраваную палітінфармацыю сярод завадчанаў. Ім, маўляў, доўга і ўпарта тлумачылі, што не варта глядзець у бок Расіі, трэба трымацца Украіны, і яны ўрэшце ўсё зразумелі. Падмацоўваючы словы захаванням працоўных месцаў, нягледзячы на крызісную сітуацыю, і нават ростам заробкаў.

На гэтую вясёлкавую карціну Сяргей, рабочы з «Азоўсталі», рэагуе па-марыупальску: «Цю!» Ён сцвярджае, быццам прадпрыемства завінавацілася яму ажно 15 тысяч грыўняў, а яму сям'ю карміць, праз што ён пайшоў да начальніка і пастрашыў яго запальнічкай, каб той аддаў грошы. Начальнік даў яму тысячу грыўняў, потым, мабыць, выклікаў міліцыю, і па дарозе дадому Сяргея скруцілі.

## «Няхай хоць Куала-Лумпур сюды прыходзіць»

Сяргей таксама расказаў, што ў Шырокіна на адваяваных «апалчэнцамі» пазіцыях украінскіх вайскоўцаў нібыта знаходзіць «нямецкія каскі і сцягі», то бок, «хлопцы з ДНР» робяць слушную справу, ваюючы з нацыстамі, як ваявалі іхныя дзяды. Ён сам падумваў аб тым, каб пайсці ў армію, бо там як быццам плацяць лепей, але за «нацыстаў» ваяваць не хоча, а за ДНР не наважваецца. Ці не наважваецца сказаць, што хацеў бы. Вайну трэба спыніць, не варта баяцца, што «апалчэнцы» пойдуць на Кіеў, далей за Харкаў не пойдуць, Харкаў аддаваць не трэба, Марыупаль таксама не трэба, Украіна мае быць адзінай і непадзельнай, а як тое зрабіць, калі перастаць супраціўляцца, Сяргей не ведае.

Менавіта такой — блытанай і непаслядоўнай — з'яўляецца і пазіцыя самога Ахметава. Аляксандр, старшы майстар завода ім. Ілліча, кажа, што Ахметаў усё яшчэ мае вялізны ўплыў на працаўнікоў, і сапраўды можа настроіць рабочых сваіх заводаў пэўным чынам пры жаданні. Але праз дваістасць свайго стаўлення да вайны на Данбасе толькі ўносіць сумятню ў іхныя розумы. У брыгадзе Аляксандра з сямідзесяці чалавек, гаворыць майстар, Украіну падтрымліваюць недзе пятнаццаць, астатнія ўскладаюць свае спадзевы на Расію. Ці абумоўлена гэта эканамічнай мэтазгоднасцю? Не, кажа Аляксандр. Яны прадаюць сваю прадукцыю збольшага ў Еўропу і ЗША, і толькі палову коксу атрымліваюць з Расіі. Таму з боку рабочых гэта хутчэй «гуманітарны» выбар. Прычым, што цікава, многія з іх аднačасова плануюць уцёкі з гораду на выпадак прыходу ДНР у Марыупаль.

Аляксандр пасмейваецца трохy з рабочых, але і сам гаворыць, што яму ўжо настолькі ўсё роўна, што «няхай сюды хоць Куала-Лумпур прыходзіць, абы грошы нармальныя плацілі». Яшчэ з год таму Аляксандр атрымліваў каля тысячы — тысячы двухсот долараў. У сувязі з драматычнымі падзеямі на Данбасе спачатку знізіліся аб'ёмы вытворчасці, а разам з імі заробак, потым ад яго засталося з камарову жменю праз дэвальвацыю грыўні. Цяпер майстар атрымлівае жалю вартыя грошы — каля 140 долараў у месяц.

## Сапраўдныя героі

На самай лініі фронту, пад гукі кананады, гэтае «няхай хоць Куала-Лумпур» набывае пагрозлівае гучанне. Тым болей што, паводле дадзеных выведкі, якімі падзяліўся са мной Яўген, баец батальёну «Кіеў-2», у марыупальскім падполлі чакаюць свайго часу паўтары тысячы чалавек. Гатовых у патрэбны момант выступіць са зброяй у руках, калі асноўныя сілы ўкраінскіх абаронцаў выйдуць з гораду, каб супрацьстаяць наступу, які распачнецца для адцягвання ўвагі. Зрэшты, калі вораг абыдзецца без хітрыкаў і проста ўдарыць у лоб, даць яму адлуп няма чым.

Так сцвярджае не толькі Яўген, але і байцы іншых батальёнаў, якіх я апытваў. Надзеі няма ніякай, гавораць яны, застаючыся тут насуперак яе адсутнасці. «Не разумею, калі мяне пытаюцца, чаму я гэта раблю. А як яшчэ? Іншай краіны ў нас няма, і за нас ніхто гэтага не зробіць», — кажа Яўген.

Гатовыя памерці байцы, безумоўна, заслугоўваюць павагі, але для мяне не яны галоўныя героі сённяшняга Марыупаля. Месца, дзе, як кажа марыупальская журналістка Юлія Гаркуша, «у адзін момант усё можа скончыцца». Яе маці ладную частку жыцця адпрацавала на атамным ледаколе «Ленін» у Мурманску, па 11 месяцаў не бачачы нічога вакол, апроч ледзяной пустыні. Цяпер яна атрымлівае пенсію ў памеры тысячы грыўняў — меней за 50 долараў па цяперашнім курсе. Пры гэтым «строіць» усіх на сваёй вуліцы ў прыватным сектары на Левым беразе. «Да Пуціна захацелі? Ну патэлефануйце ў Крэмль, няхай ён дашле за вамі верталёт, выражуць ваш участак зямлі і перанясуць куды-небудзь у Магадан. Не, не падабаецца? Чаго ж так? Магадан — гэта самая сапраўдная Расія і ёсць», — кажа Вера Іванаўна.

Сённяшні Марыупаль запомніцца мне выхавацелькамі, нянечкамі і медсёстрамі дашкольнага санаторыя «Айбаліт», які цяпер працуе часткова як дзіцячы дом і прытулак для дзетак бежанцаў з зоны баявых дзеянняў. Чысты, утульны, упрыгожаны. Дасюль стаіць перад вачыма карціна, калі дзеткі радасна танчаць з выхавацелькай у музычным класе, а зусім недалёка бабахаюць мінамёты і «Грады». І яшчэ Таццяна Пятроўна, галоўны бухгалтар дашкольнага санаторыя, якая прымала нас і вельмі прасіла неяк дапамагчы — не ім, а забытаму дзіцячаму дому ў Данецку для дзяцей з ВІЧ.


На занятках па патрыятычнаму выхаванню

Ці Мімоза Давыдаўна, дырэктар Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання Арджанікідзаўскага раёна Марыупаля, дзе размяшчаюцца бежанцы з Шырокіна. «Украіна нам нічым, нічым не дапамагла», — кажа, рыдаючы, старэнькая жанчына, у якой няма сваякоў і нічога не засталося ад дома. «Ну як жа не дапамагла, згадайце, колькі ўсяго вам валанцёры прынеслі», — спрачаецца Мімоза Давыдаўна. «Гэта ўсё дзякуючы вам. Вы — наша Украіна», — гаворыць бабулька.

## Прыйшла памаліцца за нашу Украіну

Як і па ўсёй астатняй краіне, чальцы Украінскай праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхату не сядзяць склаўшы рукі. Цяпер у Марыупаль пераехала Данецкая епархія, на выездзе з Данецку машына епіскапа Сергія была абстраляная. Падобна на тое, што за ёй адмыслова сачылі. Такім чынам прарасійскія баевікі далі царкве найвышэйшую адзнаку за яе ўдзел ва ўкраінскай справе. Хаця ў чатырохсоттысячным Марыупалі знаходзіцца ўсяго тры іхных прыходы, яны з'яўляюцца адной з найбольшых дабрачынных арганізацый. Адных бяздомных і бежанцаў яны кормяць да ста чалавек у дзень. На ўсіх гатуе 81-гадовая бабуля, этнічная грачанка з паходжання. Раз на тыдзень яна таксама звычайна робіць варэнікі, якія святар потым развозіць па блокпостах. Агулам марыупальская царква перадала тоны рознай дапамогі. Дапамагаюць яны не толькі вайскоўцам, але і Таварыству інвалідаў, і «Фонду дапамогі дзецям Данбаса», які апякуецца тымі, хто не трапіў у спісы Фонду Рыната Ахметава, і некалькім дзіцячым дамам сямейнага тыпу.

Калі айцец Уладзімір прывёз нас на службу ў батальён «Святой Марыі», туды прыйшла дзяўчына гадоў дваццаці з выгляду. У яе трымцелі рукі, яна была ўся збялелая. Як потым высветлілася, Тамара, якой насамрэч дваццаць сем, адна выхоўвае васьмігадовага сына, а ейны бацька памірае ад раку. Яна кажа, што для першапачатковага лячэння бацькі, якога вельмі любіць, мусіла б прадаць усё, што мае, застацца ні з чым. Дзяржава нічым дапамагчы не можа. Праз адчай Тамара сама цяжка захварэла — нервовая сістэма не вытрымала. На лячэнне таксама патрэбныя немалыя грошы. А тут яшчэ вайна… Кожны выбух, нават проста кожны ўзброены чалавек выклікаюць у яе шокавую рэакцыю.

«Прыйшла прасіць за бацьку, бо няма каго болей прасіць. І памаліцца за нашу Украіну», — кажа Тамара.

На шчасце, Тамара сустрэла людзей, якія паспачувалі ёй, абнялі і далі трохі грошай на падарунак яе сыну (яна сказала, што купіць яму энцыклапедыю, бо ён вельмі цікаўны). Тамара ўся прасвятлілася і сказала на развітанне: «Калі Украіна выстаіць, гэта адбудзецца дзякуючы простым людзям, якім не ўсё роўна.

# Канец турызму

Сяргей ПУЛЬША

**Розныя міністэрствы і ведамствы цягам дзесяцігоддзяў і шалёных грошай спрабавалі завабіць турыстаў у Беларусь. Але ўся гэтая праца была адпраўлена ў сметніцу ўсяго адной унутранай пастановай МУС Беларусі.**

Пачалося ўсё з таго, што журналіста «Камсамольскай праўды ў Беларусі» затрымалі за спробу сфатаграфаваць новую падсветку будынка Акадэміі Навук. Яго пратрымалі ў міліцыі чатыры гадзіны, дзе і сказалі, што ёсць дакумент, паводле якога адміністрацыйныя будынкі здымаць забаронена.

Як высветлілася, 25 лютага намеснік міністра ўнутраных спраў — начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Мікалай Мельчанка падпісаў распараджэнне, згодна з якім міліцыянты павінны праяўляць пільнасць, калі ўбачаць, што нехта фатаграфуе нейкі адміністрацыйны будынак. Кіраўнік упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС РБ Канстанцін Шалькевіч патлумачыў, што гэта распараджэнне «накіравана выключна на забеспячэнне бяспекі ў краіне і заклікана павысіць пільнасць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў у часткі прадухілення магчымых пагроз рознага характару: ад правакацый да тэрарыстычных актаў. Гаворка не ідзе пра забарону відэа- ці фотаздымкаў адміністрацыйных будынкаў, а рэгулюе выключна дзеянні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў».

«Неабходнасць такога ўказання выкліканая ў першую чаргу тым, што ў апошні час мелі месца факты здымкаў грамадзянамі, у тым ліку не нашай краіны, адміністрацыйных будынкаў з мэтай наступнай дыскрэдытацыі органаў дзяржаўнай улады. У асобных выпадках здымкі суправаджаліся адкрыта хуліганскімі дзеяннямі», — заявіў прадстаўнік МУС.

Пры гэтым, адказваючы на шматлікія запыты розных СМІ аб прадстаўленні арыгінала дакумента, Шалькевіч сказаў: «Прадстаўленне сродкам масавай інфармацыі ўнутрыведамасных дакументаў, якія вызначаюць працу супрацоўнікаў, абавязковым не з'яўляецца».

Аднак, фотаздымак (па іроніі лёсу) дакумента прасачыўся ў інтэрнэт. У распараджэнні спадар Мельчанка загадвае сваім падначаленым арыентавацца на «выяўленне, затрыманне і дастаўку ва УУС асобаў, якія ажыццяўляюць фота- і відэаздымку будынкаў дзяржаўных органаў, у тым ліку, якія ажыццяўляюць праваахоўную дзейнасць, а таксама крытычна важных аб'ектаў». Заўважым, што міліцыянты арыентуюцца не на кантроль і тлумачэнне, што можна здымаць, што нельга. Яны павінны адразу «затрымліваць і дастаўляць».



Апроч таго, Мельчанка загадвае «пры ажыццяўленні разбіральніцтва з названымі асобамі ў абавязковым парадку забяспечыць іх асабістыператрус, апытанне, праверку па базах дадзеных МУС, а таксама пастаноўку на дакта-, фота- і відэаўлік. Арганізаваць праверку знаходзячыхся пры іх фота-, гука-, відэазапісваючай апаратуры, іншых прылад, якія выкарыстоўваюцца для гэтых мэтаў, а таксама абсталявання для прыёму і перадачы дадзеных па дротавых і бяздротавых каналах сувязі».

Заўважым, пастанова Мельчанкі прадугледжвае не «дагляд», а адразуператрус, прычым, без санкцыі пракурора. А таксама пастаноўку на дакта-, фота- і відэаўлік любога, хто нешта фатаграфуе. Чаму б не спрасціць гэтую працэдуру? Кожнага турыста проста ў аэрапорце, на мяжы ці на вакзале можна адразу весці на дактыласкапію і ставіць на ўлік. Таму што мабільнік з фотакамерай — фотаапаратура з прыладай для перадачы дадзеных па бяздротавых сетках — ёсць зараз нават у дзяцей.

Так што гэтае распараджэнне — менавіта забарона на здымкі. Прычым, забарона ўсім запар. Бо ў нас жа «крытычна важныя аб'екты» — паўсюль, асабліва калі спіс такіх аб'ектаў вызначаюць самі міліцыянты ў межах сваёй сапсаванасці. Напрыклад, яшчэ да пастановы Мельчанкі аднаму майму знаёмаму не дазволілі фатаграфаваць будынак самага першага ў краіне «Макдональдса» на праспекце Незалежнасці ў Мінску. Маўляў, у кадр трапляе скрыжаванне, якое з'яўляецца «ўрадавай трасай» — па ім кіраўнік дзяржавы на працу ездзіць.

Атрымліваецца, што ў Мінску нельга фатаграфаваць увогуле: усе цікавыя гістарычныя будынкі — адміністрацыйныя. КДБ, Нацбанк, МУС, Палац Рэспублікі, тая ж Акадэмія Навук і нават Нацыянальная бібліятэка пад забаронай для фота, бо ў ёй ёсць прэзідэнцкі кабінет ды зала для міжнародных дэлегацый. Чырвоны касцёл мяжуе з Домам Урада, гарадская ратуша, на ўзнаўленне якой улады Мінска патрацілі столькі высілкаў, — сама па сабе адміністрацыйны аб'ект, каталіцкі Кафедральны касцёл — побач з французскім пасольствам, а праваслаўны Кафедральны — побач з грузінскай амбасадай... Спіс можна працягваць.

Днямі фатографаў, якія здымалі рэкламны ролік, затрымалі за тое, што яны рабілі здымкі ля будынку, дзе месцілася адвакацкая кантора. У Іўі турыстаў затрымалі за фатаграфаванне будынкаў ЗАГСу ды кінатэатру. У Лоеве ў затрыманага грамадзяніна Расіі знайшлі фоткі не толькі Лоеўскага РАУС і ваенкамата, «абцяжарваючымі абставінамі» былі прызнаныя здымкі гомельскага вакзалу і не высветленага «паветранага судна». Дарэчы, будынак гомельскага чыгуначнага вакзалу — сам па сабе помнік архітэктуры.

Навіна пра забарону на фота ў Беларусі ўжо абышла замежныя форумы, блогі і стужкі навін. Так што МУС ужо стварыў Беларусі імідж краіны, неспрыяльнай для турызму. Бо турыст без фотаапарата — не турыст.

# Цьмяная будучыня малога бізнесу

Вольга ХВОІН

**Супольнасць індывідуальных прадпрымальнікаў краіны працягвае ліхаманіць — чыноўнікі на словах дазволілі працаваць на старых умовах, але юрыдычна гэта ніяк не прапісана.**



Новы ўказ Лукашэнкі, які мусіць надаць пэўнасці сітуацыі, пакуль не падпісаны. У краіне назіраецца агульны спад у эканоміцы, гандлёвыя шэрагі пустуюць без наведвальнікаў, а ІП быццам бы прапануюць адкупіцца ад абавязковай сертыфікацыі прадукцыі павышанымі падаткамі. Толькі, гавораць ІП, адкупляцца няма чым.

Міністэрства па падатках і зборах анансавала прыняцце новага ўказа прэзідэнта, які дазволіць індывідуальным прадпрымальнікам — плацельшчыкам адзінага падатку прадаваць тавары лёгкай прамысловасці без сертыфікацыі. Але за гэта прадугледжваецца выплата адзінага падатку з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 2 і выплата ПДВ у фіксаваных сумах у павялічаных памерах.

Па словах кіраўніка прадпрымальніцкага аб'яднання «Перспектыва» Анатоля Шумчанкі, у прапанове «адкупіцца» ад сертыфікатаў не ўсё адназначна. «Большасць не змогуць плаціць такія падаткі, асабліва ў рэгіёнах. І дзяржаве варта было б не перагібаць палку падаткова цiску. Але, на жаль, не ў той сітуацыі наша грамадства, каб дыктаваць свае ўмовы. І ў гэтым мы вінаватыя самі, канешне. У нас многа перашкодаў, каб адстойваць свае правы...» — гаворыць кіраўнік аб'яднання прадпрымальнікаў.

Разам з тым Шумчанка спадзяецца, што сітуацыя неяк вырашыцца, бо сёлета выбары, і ўвогуле няпроста цяпер у Беларусі. Але зразумела, як гэта будзе прадстаўлена публіцы: «прэзідэнт пачуў прадпрымальнікаў».

На днях у Мінску была сустрэча прадстаўнікоў прадпрымальніцкага руху з кіраўніком Дэпартаменту па прадпрымальніцтву Мінэканомікі. На гэтай сустрэчы прысутнічала прадпрымальніца са сталічнага рынку «Ждановічы» Таццяна Міронава. Яна распавяла, што прадпрымальнікам прапанавалі ўвайсці ў склад працоўнай групы ды зрабіць свае прапановы, што могуць увайсці ў новы ўказ.

«Мы прапанавалі панізіць павышаючы каэфіцыент на адзіны падатак да 1,5 ды дазволіць працаваць некалькі гадоў без сертыфікацыі, тым больш у краіне цяпер нездаровая эканамічная сітуацыя», — распавяла Таццяна Міронава.

Была сустрэча і ў Міністэрстве па падатках і зборах, але там дыялогу не атрымалася зусім. На ўсе спробы давесці, што высокія падаткі для шэрагу дробных бізнесоўцаў могуць стаць непад'ёмнымі, візіцёры атрымалі адказ: «Гэта ваша праблема».

«На рынку «Ждановічы» некаторыя пайшлі ў адпачынак, але каля 80% працуюць. Калі я выйшла на працу 3 сакавіка, то цягам пяці дзён увогуле нічога не зарабіла. Людзі перасталі хадзіць на рынак недзе з сярэдзіны снежня. Мы ўвесь час ці ў нуль, ці ў мінус працуем. З нармальным падыходам у крызісны час трэба падаткі зніжаць, каб даць людзям магчымасць працаваць у прынцыпе. Ну, павысяць нам падатак, будзем тры тыдні на яго працаваць. А есці што? Ведаеце, некаторыя ўжо грошы пазычаюць, каб падатак сплаціць. Хаця ў прадпрымальнікаў заўсёды былі абаротныя грошы на тавар, нейкая падушка бяспекі. У многіх ужо гэтага няма», — распавяла прадпрымальніца Таццяна Міронава.

Кіраўнік Каардынацыйнай рады прадпрымальнікаў Алесь Макаеў гаворыць, што «будучыня трывожныя», але гэта не апошні «падарунак» прадпрымальнікам.

«Чыноўнікі пралічвалі, што пасля ўступлення ў сілу ўказа 222 застанецца каля 10 тысяч ІП па краіне, якія гандлююць таварамі легпрама. Меркавалася, што нішу ІП зоймуць буйныя гандлёвыя сеткі, і яны ж прынясуць вялікія падаткі ў бюджэт. Але ў краіне здарыўся крызіс, і ўвогуле цяпер не вядома, што будзе», — рэзюмуе Макаеў.

Нагадаем, 1 сакавіка павінен быў уступіць у сілу ўказ № 222, па якім ІП не маглі прадаваць тавары лёгкай прамысловасці без дакументаў. То бок абавязковых сертыфікатаў якасці. Прадпрымальнікі заявілі, што многія з іх будуць не ў стане выканаць гэтыя патрабаванні, бо тавары часта возяцца малымі партыямі, а сертыфікацыя каштуе дорага і, аўтаматычна, істотна падвышае цану на тавар. За дзень да ўступлення дакумента ў сілу намеснік міністра эканомікі Дзмітрый Круты паведаміў: «Усе могуць працаваць у спакойнай абстаноўцы... У праекце новага ўказа мы пастараемся адказаць на самыя надзённыя пытанні... канчаткова выпрацаваць механізм па легалізацыі рэштку тавараў». Таксама было паабяцана, што не будзе штрафаў і канфіскацый на гандлёвых месцах да ўступлення ў сілу новага ўказа. Між іншым, штраф за гандаль таварам без дакументаў — каля 9 мільёнаў.

Цяпер, па інфармацыі прадпрымальніцкіх аб'яднанняў, у краіне не працуюць каля 80% дробных прадпрымальнікаў.

# Бараніць сваё, каб не дайсці да торбы

Ганна МЫЗЕНКА

**Тамара Скрабец цяпер ужо шкадуе, што прадала ў свой час кватэру ў Мінску ды з'ехала з мужам жыць у вёску Каменка Уздзенскага раёна. Але тады, у 2007-м годзе, памяняць горад на вёску дзеля спакойнай старасці падавалася правільным рашэннем. Нават праблемы з набытым домам ды надзелам зямлі выглядалі вырашальнымі.**



## Дамовіліся па-суседску

Справа ў тым, што зямельны ўчастак новых гаспадароў хаты знаходзіўся каля дому Анатоля Юзафовіча — суседа насупраць. А зямля суседа — акурат побач з домам Скрабцоў. Праз гэты надзел новыя ўладальнікі не маглі заехаць ва ўласнае дварышча. Але дамовіцца пра абмен надзеламі са спадаром Юзафовічам аказалася вельмі проста.

«Ну, і вось мы так з ім дамовіліся і паехалі ў сельскі савет, — пачынае аповед спадарыня Тамара. — Добраахвотна падалі заявы на абмен. Я мяняла свой прыватызаваны ўчастак у трынаццаць сотак, а ён свой, каторы быў выдзелены калгасам. Ён не быў прыватызаваны. Але нам Ліцвянскі сельскі савет дазволіў зрабіць абмен».

Аднак суседу зямля ўвогуле была не патрэбная. Таму ён дазволіў спадарыні Тамары апрацоўваць і ейны былы ўчастак зямлі. Аднак для жанчыны найважнейшым быў усё ж такі надзел побач з домам.

«Участак быў настолькі занядбаны, што мы не маглі канём узараць яго. Паднялі зямлю трактарам, потым віламі, рукамі гэта ўсё перапрэслі, бачыце, якія ў мяне рукі?» — голас спадарыні Тамары зрываецца і на вочы наварочваюцца слёзы...

За сем гадоў на ўчастку з'явіліся гаспадарчыя пабудовы і плот, сям'я зрабіла калонку, правяла газ і насадзіла дрэвы, якія пачалі ўжо пладаносіць. А вось Анатоль Юзафовіч не спяшаўся афіцыйна афармляць прыватную ўласнасць на свой новы надзел.

## Ні сабе, ні людзям

Праблемы ў Скрабцоў пачаліся, калі сусед памёр. Спадкаемніцаю аказалася аднасяльчанка Людміла Лысая, якая даводзілася Анатолю Юзафовічу роднай цёткай. Жанчына сабралася прыватызаваць хату і зямлю побач. На той момант Ліцвянскі сельсавет ужо ліквідавалі. Таму спадарыня Лысая падала заяву ў Уздзенскі сельсавет. І там ёй дазволілі прыватызаваць участак, які фактычна ўсё яшчэ належаў Тамары Скрабец. Каб атрымаць зямлю, Людміла Лысая падала ў суд. А на Скрабец пачалі ціснуць чыноўнікі, каб яна добраахвотна і безвыплатна адмовілася ад старога ўчастка на карысць новай суседкі. Спадарыня Тамара не згадзілася. У выніку суд прызнаў угоду па абмену ўчасткамі несапраўднай на падставе таго, што на момант дамовы паміж суседзямі жывая яшчэ была маці Анатоля Юзафовіча. А таму, маўляў, ён не меў права мяняцца ўчасткамі з суседзямі.

Не выйграла ў выніку і Людміла Лысая. Зямлі яна не атрымала, а былы надзел Анатоля Юзафовіча побач з домам Тамары Скрабец паводле рашэння суда мусіць цяпер адыйсці дзяржаве. Ані пра якую кампенсацыю гаспадарам нават гаворкі не ідзе.

«У чым мая памылка? — пытаецца Тамара Іванаўна. — Я падпарадкоўвалася сельсавету, ну, не буду ж я казаць, што яны няправільна робяць! Усё, што яны мне сказалі, я выканала, усё, што трэба было аплаціць, я аплаціла, і апрацоўвала гэтую зямлю спакойна, Юзафовіч адмовіўся, ён нават сваю зямлю каля дому не хацеў прыватызаваць».

## Пры чым тут сельвыканкам?

Падаецца, для Тамары Скрабец сітуацыя складаецца не самым горшым чынам. Бо яна, хаця і страчвае надзел побач з домам, але ўсё яшчэ валодае ўчасткам побач з хатай суседкі. Аднак не ўсё так проста. Бо каб адбудаваць усё нанова на іншым участку, у пенсіянераў ужо нестае сілаў, дый сродкі не дазваляюць.

— Я жыву толькі дзякуючы гэтаму ўчастку побач з домам. Я трымаю дробную жывёлу. А агульнай пашы для іх няма. Кармы, паліва, электраэнергія, будаўнічыя матэрыялы каштуюць дорага. Гэты дом і гэты хлеўчык трэба ўвесь час падтрымліваць, рамантаваць, усе мае грошы ідуць на гэта. Бо за 38 гадоў працоўнага стажу я атрымліваю ўсяго толькі два з паловай мільёна пенсіі. А існую я толькі з працы на гэтай зямлі, — распавядае Тамара Іванаўна.

***— А чаму вы раней не рабілі спробаў прыватызаваць дзяржаўны ўчастак побач з домам?***

— Ну, ніхто мне не гаварыў пра гэта... мне ж, ведаеце, выдалі дакументы, што, нібыта ён мне і належыць...

Ці магчыма развязаць праблему пенсіянераў бяскроўным спосабам? Мы спыталі кіраўніцу справамі Уздзенскага сельскага выканаўчага камітэту Марыну Дылеўскую.

— Пры чым тут мы, сельвыканкам? — пытае ў адказ чыноўніца. — Было вынесенае рашэнне суда, іск падаваў не сельскі савет, а грамадзянка Лысая. У выніку мы пайшлі адказчыкамі. Рашэнне суда па гэтаму пытанню вынесенае. Усе пытанні да суда.

***— Але ўчастак паводле рашэння суда цяпер адыдзе да сельсавету, ці магчыма будзе вырашыць пытанне з участкам для Тамары Скрабец хаця б за грошы?***

— Пакуль ніхто гэтым займацца не будзе, Скрабец сама гэтага захацела. Хай спачатку рашэнне суда ўступіць у сілу. Потым будзем вырашаць. Пракаментаваць гэта пакуль не магу.

## Ці варта шукаць карупцыйны складнік?

Тамара Скрабец тым часам звярнулася па дапамогу да старшыні праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алега Волчака. Першае, што яны зрабілі, — падалі касацыйную скаргу на рашэнне суда.

«Мы зараз прапрацоўваем сваю абарону, і ў нас ёсць права падаць іск супраць Удзенскага сельсавета аб кампенсацыі нанесенай шкоды гэтай жанчыне неправамернымі дзеямі сельсавету (на той момант Ліцвянскага). Мы падлічым, колькі ў Тамары Скрабец пайшло грошай, каб узвесці пабудовы, апрацаваць зямлю», — кажа праваабаронец.

Увогуле, спадар Волчак лічыць, што гісторыя Тамары Скрабец тыповая для сучаснай Беларусі.

«Першае, што прыходзіць у галаву, гэта тое, што пасялковыя і сельскія саветы, якія прымаюць рашэнні па прыватызацыі ўчасткаў, праводзяць шмат угодаў, якія потым праз халатнасць і непрафесіяналізм могуць быць прызнаныя несапраўднымі. Але паўстае пытанне: пры чым тут людзі? Яны плацяць грошы за прыватызацыю, а потым праз 10–15 гадоў пазбаўляюцца гэтай уласнасці і не атрымліваюць аніякай кампенсацыі. У нас гэта не першы такі выпадак, з якім звяртаюцца людзі ў грамадскую прыёмную. Наступнае пытанне: ну, прызналі ўгоду несапраўднай пра віне чыноўнікаў, дык чаму тады ўсе страты па суду вешаюць на пацярпелага? Тады трэба распачынаць крымінальную справу за халатнасць супраць чыноўнікаў», — лічыць Алег Волчак.

Не выключае праваабаронца і карупцыйны складнік зямельных спраў: «Вяскоўцаў часта прымушаюць адмаўляцца ад участкаў. Гэтыя зямельныя надзелы ўжо апрацаваныя, прывабныя для пакупнікоў. Яны знаходзяцца ў межах 100 кіламетраў ад Мінску. Зазсёды можна выставіць гэтыя ўчасткі на аўкцыён. І іх набываюць. Прычым гэтыя землі прадаюць з правам будаўніцтва жылога дома. Дзяржава абавязаная праводзіць туды святло, дарогу. Рана ці позна вось гэтыя зямельныя пытанні пачнуць масава паўставаць, паколькі ад пачатку былі няправільна праведзеныя ўгоды, зямельныя спрэчкі не разбіраліся, дамы кідалі. А калі кошт на зямлю вырасце, пачнуць з'яўляцца нашчадкі. Будзе шмат праблемаў».

## Бараніце сваё

Тамара Скрабец гатовая бараніць свае права на зямлю ўсімі магчымымі спосабамі, звяртацца па дапамогу ва ўсе інстанцыі. Бо іншага выйсця не бачыць.

Пакуль касацыйную скаргу жанчыны не разгледзелі, яна яшчэ мае права заходзіць на ўласны падворак. Зямля каля дому ўжо ўзараная і падрыхтаваная, каб садзіць бульбу. Ці давядзецца рабіць гэта сёлета, гаспадары не ведаюць. На ўсялякі выпадак рыхтуюцца да горшага. На вялікі жаль, ніхто ў свой час не растлумачыў пенсіянерам, як правільна афоміць зямлю ва ўласнасць, каб памылкамі не скарысталіся потым не надта сумленныя людзі, ніхто не параіў самастойна ўнікнуць у кожную літару закону.

Незаўважна для ўсіх надышоў час, калі добра ведаць законы і ўмець бараніць свае правы на ўласнасць трэба не толькі адмыслоўцам, а і самым звычайным людзям. Каб не дайсці потым да торбы нечакана для саміх сябе.



TV

## 16 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.40** Камедыйны серыял «Дзявочнік» (Расія). Заключная серыя.
**11.00** 90 секунд.
**11.50** Сатырычная камедыя «Спортлато-82» (СССР).
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.45** Меладрама «Дзяўчына сярэдніх гадоў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.50** Меладрама «Дзяўчына сярэдніх гадоў» (Расія). 3. і 4-я серыі.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Прэм'ера на канале! Ваенна-прыгодніцкі серыял «Гетэры маёра Сакалова» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Сатырычная камедыя «Спортлато-82» (СССР).
**00.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.55** Навіны.
**01.10** Дзень спорту.

### АНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** «Танцуй!».
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.50** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Такі лёс».
**15.10** «Далёкія сваякі».
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дакументальны праект».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** Фільм «Апошняе лета ў Бойце». Аргенціна-Іспанія-Францыя, 2009г.

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2» (Расія). Заключная серыя.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.10** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія).
**12.50** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.15** Баявік «Вяртанне універсальнага салдата» (ЗША).
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2» (Расія). Заключная серыя.
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.00** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**20.30** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**21.00** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.30** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.25** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**01.20** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1 \ 8 фіналу. Агляд.

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Дыя@блог P.S.».
**08.35** «Чалавек, які занадта шмат ведаў». Крымінальная драма (Вялікабрытанія, 1934 г.).
**09.50** «Культпрасвет».
**10.25** «Олівер Твіст». Драма (Вялікабрытанія, 1948 г.).
**12.15** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі: «Батальёны просяць агню». Ваенная драма. 1-я - 4-я серыі (СССР, 1985 г.).
**16.45** «Камертон». Майстар яўрэйскай лялькі Валерыя Гайшун.
**17.10** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.40** «Дыя@блог P.S.».
**18.05** «Прынц за сям'ю морамі». Фільм-казка (Германія, 1982 г.).
**19.20** Калейдаскоп.
**19.30** «Дажджы ў акіяне». Драма (Расія, 1994 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**22.50** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: дуэт «Доля» - Іна Шабельная і Святлана Пышненка.
**23.30** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**06.30** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян-Уэлс. Прамая трансляцыя.
**08.30** PRO спорт. Навіны.
**09.00** Хакей. КХЛ. Паўфінал Заходняй канферэнцыі. Трэці матч.
**10.55** Баскетбол. НБА. «Кліпэрз» - «Х'юстан».
**00.40** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян-Уэлс.
**14.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**15.40** Час футболу.
**16.25** Хакей. КХЛ. Паўфінал Усходняй канферэнцыі. Трэці матч. Прамая трансляцыя.
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Паўфінал. Шосты матч. Прамая трансляцыя.
**21.05** Хакей. КХЛ. Паўфінал Заходняй канферэнцыі. Чацвёрты матч.
**22.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Суёнсі» - «Ліверпуль». Прамая трансляцыя.
**00.55** Еўрапейскі покерны тур.
**01.45** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян-Уэлс. Прамая трансляцыя.

### Белсат TV

**07.00** ПраСвет.
**07.35** Зона «Свабоды».
**08.10** Людскія справы.
**08.40** Два на два (тэледыскусія): Святлана Куль і Юрый Чавусаў.
**09.15** «Палігон», дак. фільм.
**10.00** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**10.50** «Песні вайны», дак. фільм.
**11.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**12.15** Кінаклуб: «Ціхі хаос».
**12.25** «Ціхі хаос», маст. фільм.
**14.15** ПраСвет.
**14.50** «Остров Крым. Deja vu», дак. фільм.
**15.25** «Песні вайны», дак. фільм.
**16.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**17.05** «Час гонару», тэлесерыял.
**17.55** Мова нанова: «Рэклама».
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Людскія справы.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Асабісты капітал.
**22.10** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Вінцук Вячорка.
**22.40** Кінаклуб: «Ціхі хаос».
**22.50** «Ціхі хаос», маст. фільм.
**00.40** Студыя «Белсат».

## 17 САКАВІКА, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладрама «Каханне прыходзіць не адно» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Гетэры маёра Сакалова» (Расія). 1 я серыя.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» .
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Гетэры маёра Сакалова» (Расія). 2 я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.05** Ваенная драма «Сямнаццаць імгненняў вясны» СССР. 1-я серыя.
**23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### АНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Доўгі шлях дадому». Шматсер. фільм.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.00** «Вячэрні Ургант».
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Целаахоўнік». ЗША, 1992г.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Наша справа».
**14.30** «Мінск і мінчане».
**15.00** «На 10 гадоў маладзейшы».
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Справа для дваіх». Серыял.
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** Фільм «Уцекачы». Францыя, 1986г.
**00.50** «Ніна». Серыял. Заключныя серыі.

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Шпік без ліцэнзіі» Расія.
**10.15** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.40** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**13.40** Кіпень.
**14.00** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.05** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» ЗША.
**15.35** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.40** Серыял «Шпік без ліцэнзіі» (Расія).
**17.50** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» ЗША.
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1 \ 8 фіналу. Матч у адказ. Прамая трансляцыя.
**00.40** Тэлебарометр.
**00.45** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**01.30** Вышэй за дах.

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Падлетак». Драма. 3-я серыя (СССР).
**09.20** «Размаўляем па-беларуску».
**09.25** «Дажджы ў акіяне». Драма (Расія, 1994 г.).
**10.40** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**11.05** «Раба кахання». Меладрама (СССР, 1975 г.).
**12.40** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: дуэт «Доля» - Іна Шабельная і Святлана Пышненка.
**13.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Леаніда Лапчынскага.
**13.45** Калейдаскоп.
**13.55** «Сустрэча напрыканцы зімы». Драма (СССР, 1978 г.).
**15.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.55** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.25** «Каб любіць Беларусь..» Канцэрт ансамбля народнай музыкі «Бяседа».
**17.45** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**18.10** «Падлетак». Драма. 3-я серыя (СССР).
**19.25** Калейдаскоп.
**19.35** «Уся каралеўская раць». Драма. 1-я серыя (СССР, 1971 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Уся каралеўская раць». Драма. 2-я серыя (СССР, 1971 г.).
**22.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.40** «Уся каралеўская раць». Драма. 3-я серыя (СССР, 1971 г.).
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Леаніда Лапчынскага.
**00.05** «Персона». Карэн Шахназараў.
**00.30** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**05.35** PRO спорт. Навіны.
**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Хакей. КХЛ. Паўфінал Заходняй канферэнцыі. Чацвёрты матч.
**09.15** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Паўфінал. Шосты матч.
**11.00** Час футболу.
**11.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**12.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Суёнсі» - «Ліверпуль».
**14.25** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян-Уэлс.
**15.55** Спорт-кадр.
**16.25** Хакей. КХЛ. Паўфінал Усходняй канферэнцыі. Чацвёрты матч. Прамая трансляцыя.
**18.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Чырвоны Кастрычнік». Прамая трансляцыя.
**21.00** Тэніс. Турнір ВТА. Індыян-Уэлс. Прамая трансляцыя.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. «Атлетыка» - «Баер». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. «Манака» - «Арсенал».
**02.35** Баскетбол. НБА. «Нью-Ёрк» - «Сан-Антоніо». Прамая трансляцыя.
**04.45** Еўрапейскі покерны тур.

### Белсат TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Людскія справы: Вайна побач з намі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Асабісты капітал.
**10.40** Зоры не спяць: Вінцук Вячорка.
**11.15** «Дом», серыял.
**12.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**13.00** Студыя «Белсат».
**13.30** Людскія справы.
**14.00** Студыя «Белсат».
**16.20** Асабісты капітал.
**16.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.10** «Час гонару», тэлесерыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо.
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Два на два: Аляксандр Сілкоў і Уладзімір.
**22.20** «Мярлінская малітва», рэпартаж.
**22.40** «Песні вайны», дак. фільм.
**23.30** Студыя «Белсат».

# Як пастрыгчы дыктатара?

*Алег НОВІКАЎ*

**Новая прычоска Кім Чэн Ына стала адной з самых папулярных тэм у сусветных СМІ і выклікала незвычайныя дэбаты пра ролю прычосак для дыктатараў і лёсаў іх рэжымаў.**



Выгаленыя скроні, высокі «вожык», што стаіць насуперак усім законам гравітацыі, зверху падобны да трапецыі, плюс часткова выдаленыя бровы — такім убачылі Кім Чэн Ына яшчэ 19 лютага. Але сусветная грамадскасць дасюль намагаецца зразумець, што стаіць за новай прычоскай лідара КНДР. Тое, што прычоска мае нейкую ідэалагічную нагрузку, сведчыць і гісторыя рэгіёну. У час манчжурскай акупацыі Кітаю ўсіх кітайцаў, напрыклад, у знак пакорлівасці прымусілі насіць косы.

Але чаму паўночнакарэйскі лідар так пастрыгся і пабрыў бровы? Меркаванняў наконт гэтага шмат. Напрыклад, выданне «Vox» мяркуе, што выгляд Кім Чэн Ына — своеасаблівае алегарычнае пасланне. «Высокі «вожык» — гэта ўстаноўка на дасягненне новых вышынь, што не можа спыніць ніводная прыродная сіла», — піша «Vox».

Аналітыкі з Паўднёвай Карэі, якія, напэўна, лепш за ўсіх адсочваюць падзеі на Поўначы, лічаць, што звычкі маладога Кіма звязаныя з жаданнем дасягнуць знешняга падабенства з яго дзедам Кім Ір Сенам. Па словах паўднёвых карэйцаў, паўночнакарэйская прапаганда зараз увесь час падкрэслівае падабенства паміж імі. «Для людзей у Паўночнай Карэі постаць Кім Ір Сэна роўная богу. Ніхто не можа адважыцца кінуць выклік яго святасці», — кажа адзін з экспертаў з Сеулу. Нельга таксама забываць, што КНДР рыхтуецца адзначыць 70-ю гадавіну свайго існавання.

**У краінах, дзе да ўлады дарываюцца мусульманскія фундаменталісты, ад насельніцтва патрабуецца насіць доўгія валасы і ніколі не галіцца. Талібы, захапіўшы Кабул, пад пагрозай смярці забаранілі цырульні і ўвялі спецыяльны памер барады**

Паколькі ў той час у модзе былі менавіта такія «вожыкі» з адкрытымі вушамі, магчыма, прычоска Кір Чэн Ына — частка кампаніі па прапагандзе юбілею.

На другім месцы па папулярнасці сярод экспертаў Поўдня тэорыя пра тое, што Кім Чэн Ын, які ў маладосці вучыўся ў Швейцарыі, дасюль захапляецца заходняй моладзевай культурай. На гэты раз тыран стаў фанатам ды-джэя DJ Pauly D, чый імідж вельмі падобны да новай прычоскі лідара КНДР.

Спрэчкі вакол загадкі новай прычоскі Кім Чэн Ына далі старт для дэбатаў на больш глабальныя тэмы. Напэўна, упершыню ў палітычнай і гістарычнай дыскусіі ўзнікла праблематыка — ці праводзяць дыктатарскія рэжымы асаблівую палітыку ў галіне прычосак?

Так, кажуць аўтары публікацыі ў польскім часопісе «Polityka». Яны ўзгадваюць шэраг прававаых актаў у аўтарытарных і таталітарных краінах, якія ўніфікавалі мадэлі прычосак. Галоўным чынам улада забараняла доўгія валасы і бароды. Гэта, хутчэй за ўсё, звязана з мілітарысцкім наратывам усялякай дыктатуры, якая бачыла ў доўгіх валасах прыкмету дэкадэнцтва і праявы антыдысцыпліны. Можна ўзгадаць, як у СССР 1970-я гады камсамольскія дружыны лавілі прыхільнікаў субкультуры хіпі і стрыглі ім валасы, а таксама як 1950-я гады пераследавалі стыляг.

Ва ўсходніх краінах, дзе да ўлады дарываюцца мусульманскія фундаменталісты, наадварот, ад насельніцтва патрабуецца насіць доўгія валасы і ніколі не галіцца. Прынамсі, талібы, захапіўшы Кабул, пад пагрозай смяротнага пакарання забаранілі цырульні, і нават увялі спецыяльны памер барады.

Яшчэ адной рэакцыяй на новы стыль Кім Чэн Ына сталі даследаванні прычосак дыктатараў і спробы зразумець, якую ролю яны адыгрывалі ў кульце тыранаў. Выданне «HubPages» з гэтай нагоды піша: «Чаму дыктатары вельмі рэдка мянялі свае мадэлі прычосак і чаму іх прычоскі вельмі моцна стылізаваныя, і ім нават спецыяльна надаваўся вялікі памер? Таму што дыктатары намагаюцца падкрэсліць сваю выключнасць, якая не залежыць ад тэндэнцый моды. З улікам маніі велічы дыктатараў, можна толькі пашкадаваць няшчасных цырульнікаў, якім пагражаў расстрэл за тое, што з галавы кліента мог упасці хаця б адзін валасок».

Шмат гламурных выданняў склалі хіт-парады найбольш стылёвых прычосак дыктатараў. Часцей за ўсё ў гэтым топе аказваюцца Сталін і Гітлер. Зачасаныя назад валасы Сталіна, як піша прэса, дазволілі яму падкрэсліць цяжкія рысы свайго твару. Разам з пышнымі патрыярхальнымі вусамі яны стварылі Сталіну імідж адначасова клапатлівага бацькі і грознага гаспадара. У свой час вядомы сацыёлаг Макс Вебер называў гэтую камбінацыю ідэальнай для выкліку ў масах пачуцця жадання падпарадкавацца.

У прычосцы Гітлера сучасныя стылісты адзначаюць моцную інтэгральнасць і цікавую гульню з ценямі. Агучваецца думка, што знайсці ідэальную мадэль лідару нацыянал-сацыялістаў дапамагло яго артыстычнае мінулае. Як вядома, у маладосці будучы дыктатар захапляўся маляваннем і скульптурай.

Цікава, што ў шматлікія топ-парады дыктатарскіх прычосак прарваўся лысы Беніта Мусаліні. Лысая галава Мусаліні, на думку спецыялістаў, цудоўна пасуе пагардліваму моцнаму погляду, вострым скіўцам, што фармуе незвычайную аўру агрэсіі вакол Дучэ, якой нельга супрацьстаяць.

Вось такія незвычайныя наступствы з'яўлення на публіцы Кім Чын Ына з новай прычоскай. Застаецца адзначыць, што з-за ізаляцыі КНДР у прэсе няма ніводнага паведамлення пра тое, як жыхары КНДР адрэагавалі на новы імідж правадыра.



Іосіф Сталін



Адольф Гітлер



Беніта Мусаліні

Аднак можна смела прагназаваць, што шматлікіх мясцовых студэнтаў чакае паход у цырульню. Яшчэ ў 2013 годзе ў Паўночнай Карэі адбылася стандартызацыя прычосак, паводле якой студэнтам прадпісана насіць прычоскі выключна як у Кім Чэн Ына.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Ужо ў студзені ў дыпламатычных колах ЕС быў узгоднены ўнутраны дакумент аб мерах па збліжэнні з Беларуссю. Затым адбылася перамовы «нармандскай чацвёркі» ў Мінску, дзе гасцінны гаспадар Лукашэнка паказаў сябе з самага лепшага боку. Надышоў момант, калі ў адносінах Беларусі і ЕС можа адбыцца перелом у бок пацяплення. Як сцвярджаюць крыніцы, распрацаваны ў ЕС план прадугледжвае, што Лукашэнку давядзецца пайсці на пэўныя рэформы. Аднак у Брусэлі не стануць наступаць на тыя ж граблі і маюць намер адмовіцца ад украінскага сцэнару, які прывёў да самых драматычных наступстваў.

**«Latvijas Sabiedriskie mediji» (Латвія)**

Лукашэнку патрэбныя грошы. Уся яго эканоміка заснаваная на запазычаннях з Расіі. Уся хваленая беларуская стабільнасць, усе гэтыя «чыстыя вуліцы, сонейка жмурыцца» — і таму «Саня застанецца з намі» назаўжды, — гэта не Саня. Гэта Ельцын. А потым Пуцін. І без іх дапамогі так і засталася б у савецкім мінулым эканоміка Беларусі, даўно б ужо звалілася на галовы жыхароў былой «трэцяй рэспублікі», якія так і не зразумелі да канца сакрэт свайго 25-гадовага анабіёзу. Але цяпер Пуцін нічога не сказаў Лукашэнку пра крэдыт, у якім так мае патрэбу беларускі прэзідэнт, што рыхтуецца «застацца з намі» на наступны тэрмін. А значыць, зноў паўстануць праблемы з курсам беларускага рубля, з працаздольнасцю прадпрыемстваў, са збытам прадукцыі, з цэнамі, з усім-усім. Можна, вядома, сказаць, што гэта Пуцін так карае Лукашэнку за дрэнныя паводзіны і кантакты з Захадам. Але на самай справе Лукашэнка кантактуе з Захадам менавіта таму, што Пуцін больш не можа яго ўтрымліваць.

**«Грани» (Расія)**

Эканамічныя эксперты схіляліся да таго, што праграмы МВФ не будзе, аднак сёння змянілася і знешнепалітычная сітуацыя, і эканамічная. Беларусь вядзе актыўны дыялог з ЕС, менш актыўны — з ЗША. Аляксандр Лукашэнка, што перастаў на фоне расійскіх падзей быць апошнім дыктатарам і пагрозай для Еўропы, мае ўсе шанцы стаць паўнапраўным удзельнікам саміту «Усходняга партнёрства», які пройдзе ў траўні ў Рызе. Пагоршылася сітуацыя ў беларускай эканоміцы, і традыцыйны крэдытор Расія ўжо не такая багатая, як раней. Як паведамлялася, Беларусь заяўляла пра свой намер узяць у крэдыт у Расіі каля 2,5 мільёнаў долараў. Меркавалася, што гэтая тэма стане прадметам абмеркавання на нядаўняй сустрэчы прэзідэнтаў, аднак беларускі прэзідэнт атрымаў толькі ордэн Аляксандра Неўскага.

**«Независимая газета» (Расія)**

Захад гатовы працягнуць руку дапамогі Беларусі. Але з боку Мінска павінны быць зроблены адпаведныя крокі. Пры ўсім сваім імкненні захаваць Беларусь як незалежную дзяржаву, еўрапейцы не гатовыя ахвяраваць сваімі ідэаламі. Мінск павінен спыніць ірацыянальнае абыходжанне з палітвязнямі. Такое стаўленне да сваіх грамадзянаў, якія займаюць іншыя палітычныя пазіцыі, недапушчальна, таму і дарога ў Брусэль для Лукашэнкі сёння зачынена. Мінск павінен паказаць рэальнымі дзеяннямі, што яму можна давяраць.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Многія шляхі перасякаюць маленькую краіну, размешчаную паміж заходняй Еўропай і Расіяй, якая мяжуе з Украінай і краінамі Балтыі, дзе кіруе «апошні дыктатар у Еўропе». І гэтая краіна Беларусь. Вось ужо 21 год Аляксандр Лукашэнка жалезнай хваткай кіруе краінай, прымаючы парады, загады і дапамогу Крамля. Еўрапейскі саюз жа трымаўся ўвесь гэты час на адлегласці выцягнутай рукі, перыядычна ўводзячы санкцыі з-за парушэнняў правоў чалавека. Але на дадзены момант тэрытарыяльнае значэнне Беларусі ў гандлёвым плане, таксама як і даволі ўразлівая мяжа з Украінай, не дазваляюць больш ігнараваць гэтую краіну.

**«Handelsblatt» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЧЭХІЯ. Нашто вяртаць палякам зямлю?

Чэхія мае намер вярнуць Польшчы звыш 3,5 квадратных кіламетраў уласнай тэрыторыі, каб скончыць памежную спрэчку, якая распачалася ў 1950-х гадах. Гаворка ідзе пра тэрыторыі ў Паўночнай Маравіі і Паўночнай Багеміі. Прага матывуе гэта рашэнне жаданнем «развіваць добрасуседскія адносіны з паўночным суседам» і намерам «змяніць мяжу, усталяваную паміж дзвюма краінамі сацыялістычнага блока пад савецкім ціскам у часы халоднай вайны». Аднак такая філантропія шмат каму падаецца падазронай. Напрыклад, вядома, што Прага раней не жадала перадаваць спрэчныя тэрыторыі. Чэхі нават прапаноўвалі Варшаве фінансавую кампенсацыю за спрэчныя землі, але атрымалі адмову. Найбольш незвычайную версію прапанавалі ўкраінскія нацыяналісты. На іх думку, за крокам Прагі тырчаць вушы Масквы. Быццам, Крэмль падгаварыў чэхаў вярнуць палякам зямлю, каб стварыць прэцэдэнт змены межаў пасляваеннай Еўропы. Калі Варшава пагодзіцца на новыя межы, Маскве, быццам, будзе прасцей дадзіць законнасць анексіі Крыму.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў патрабуе серыял

Уся кінематаграфічная супольнасць Казахстану ўзрушаная. Нурсултан Назарбаеў запатрабаваў зняць 7-серыйны серыял пра гісторыю Казахскага ханства. 550-ю гадавіну гэтай сярэднявечнай стэпавай дзяржавы краіна святкуе ў гэтым годзе. Задача стаіць перад кінематаграфістамі не з лёгкіх — нацыянальная прэм'ера ўжо прызначаная на 16 снежня 2015 года, а да здымак яшчэ не прыступілі. У лепшым выпадку, сцэнар будзе напісаны да мая. Таксама не хапае грошай. Бюджэт стужкі складае каля 4 мільёнаў долараў, хаця звычайны сярэдні казахскі фільм, які патрануе прэзідэнт, каштуе каля 30 мільёнаў. Той факт, што Назарбаеў так носіцца з гадавінай ханства, шмат хто разглядае як рэакцыю на нядаўнюю сентэнцыю Пуціна. У мінулым годзе Пуцін заявіў, што Казахстан ніколі не меў дзяржаўнасці і дзяржаўных межаў, і гэтыя словы, быццам, выклікалі сапраўдную траўму ў Астане і жаданне давесці з дапамогай кіно, што ў Маскве нічога не разумеюць у казахскай гісторыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### КІТАЙ. Будзе вайна з Бірмай?

Рэзка абвастрылася сітуацыя ў бірманскім штаце Каканг, большасць насельніцтва якога складаюць этнічныя кітайцы, а сам рэгіён мае гістарычныя сувязі з Кітаем (гэты край быў часткай Імперыі Цын, пакуль брытанцы не далучылі яго да сваёй калоніі Бірмы). Тубыльцы, якіх, дарэчы, у Пекіне ўпарта лічаць кітайцамі, маюць складаныя адносіны з бірманскім урадам. За апошні месяц незадавальненне абарыгенаў перайшло ў фазу адкрытай вайны, падчас якой у ход ідзе нават вайсковая авіяцыя. Толькі за адзін дзень войска Бірмы страціла ў сутыкненнях у Кakaнгу 47 чалавек забітымі, а ва ўсім раёне ўжо абвешчана вайсковае становішча. Цяпер азіяцкая прэса гадае, як будзе Пекін рэагаваць на падзеі ў Какангу. Некаторыя кажуць, што КНР абавязкова заступіцца за этнічных кітайцаў. Іншыя мала вераць у такі сцэнар, паколькі сама прырода канфрантацыі дасюль не зразумелая. Магчыма, гэта выключна сутычка паміж наркагандлярамі (побач знаходзіцца славуты Залаты трохкутнік — адзін з сусветных цэнтраў вытворчасці опіуму). Некаторыя кажуць, што КНР не будзе лезці ў вайну, паколькі традыцыйна большасць кітайцаў Какангу сімпатызуюць партыі Гаміньдан — галоўнаму гістарычнаму канкурэнт камуністаў у Кітаі.

**Паводле кітайскай прэсы**

### РАСІЯ. У Маскве што-небудзь назавуць у гонар Нямцова

Маскоўскія ўлады гатовыя разгледзець зварот прыхільнікаў Барыса Нямцова аб увекавечанні памяці палітыка, паведаміў намеснік мэра ў маскоўскім урадзе Леанід Друкароў. «Калі зварот аб увекавечанні памяці Нямцова, у прыватнасці аб усталяванні памятнага знака на месцы яго гібелі, паступіць, ён будзе разгледжаны», — сказаў ён. Раней аднапартыйцы Нямцова паведамілі пра тое, што яны плануюць падняць пытанне аб увекавечанні памяці загінулага палітыка. Пакуль апазіцыйная публіка не надта верыць у тое, што ўлады Расіі сапраўды пагодзяцца назваць нешта ў гонар Нямцова, фактычна персанальнага праціўніка Пуціна. Таму прапануецца не чакаць згоды ад мэрыі, а сабраць грошы на помнік Нямцову, які можна паставіць у двары украінскага пасольства ў Маскве. Дэбаты працягваюцца. Дарэчы, шэраг дэпутатаў Кіеўскага савету прапануюць перайменаваць у гонар лідара расійскіх дэмакратаў Маскоўскі мост праз Днепр.

**Паводле расійскай прэсы**




# Партнёрства, аднак не ўсходняе

Алег НОВІКАЎ

**У Еўропе пачынаецца вырашальны этап бітвы за лёс праекту Міжатлантычнага партнёрства па гандлі і інвестыцыях (TTIP). Рэалізацыя TTIP можа цалкам змяніць Еўропу, аднак у праекта хапае апанентаў.**

Калі да канца гэтага года, як запланавана, Міжатлантычнае партнёрства ўступіць у сілу, мы не пабачым больш Еўропу такой, якую ведаем зараз.

Перад тым, як апісаць перспектывы, варта нагадаць, што такое TTIP. У двух словах: TTIP — гэта вольная гандлёвая зона паміж Еўрасаюзам і ЗША. Ідэя міжатлантычнай вольнай гандлёвай зоны ўпершыню з'явілася ў 1990-я гады, калі пасля заканчэння халоднай вайны пачаліся дэбаты пра тое, што рабіць з NATO. З улікам таго, што варожы камуністычны блок перастаў існаваць, падавалася, быццам вайсковая структура Захаду цяпер ужо і не патрэбная. Некаторыя прапанавалі замяніць вайсковы пакт на эканамічны.

Праўда, хуткі канфлікт у Косава давёў, што ідэя NATO застаецца актуальнай, і інтарэс да рэформы заўважна скараціўся. Пра міжатлантычную СЭЗ згадалі на пачатку гэтага стагоддзя на фоне вельмі цяжкіх перамоваў у рамках WTO. Напрыклад, за яго агітавала Ангела Меркель у 2006 годзе.

А два гады таму вельмі бюракратызаваныя апараты адміністрацыі прэзідэнта ЗША і Еўракамісіі нечакана сінхронна пачалі фарсіраваць стварэнне TTIP. Узімку 2013 года Барак Абама і Мануэль Барозу (тагачасны старшыня Еўракамісіі) далі адпаведныя інструкцыі для пачатку ўзаемных кансультацый. А ўжо ў ліпені 2014-га ўсё было гатова для непасрэднага пачатку амерыкана-еўрапейскіх перамоваў. 7 студзеня праект дамовы, над тэкстам якой працавала 25 сумесных камітэтаў з прадстаўнікоў ЕС і ЗША, быў апублікаваны Еўрапейскай камісіяй.

Аднachасова статыстычныя дэпартаменты пазначылі з контурамі бліскучай будучыні, якая чакае народы ЕС і ЗША ў выпадку прыняцця плану TTIP. Аўтары Міжатлантычнага партнёрства лічаць, што рэалізацыя TTIP дазволіць павялічыць эканамічны рост па абодва бакі Атлантыкі. Паводле разлікаў, памеры гандлю могуць вырасці на 50 адсоткаў, што, натуральна, паспрыяе бізнесу і стварэнню новых працоўных месцаў. Усяго ў гэтай зоне, адпаведна калькуляцыі, будзе выраблядца 46 працэнтаў сусветнага ВУП (зараз каля 35). Калі верыць прагнозам, эканамічны бум, якому пастрыяе рэжым TTIP, аўтаматычна дадасць у гадавы бюджэт сярэдняй еўрапейскай сям'і каля 550 еўра. Еўрапейская эканоміка штогод зможа прадаць тавараў на 120 мільярдаў еўра больш, чым зараз.

Крытыкі Міжатлантычнага партнёрства малююць зусім іншую карцінку. На іх думку, у выпадку запуску TTIP, Еўропа трансфармуецца ў нейкую дыктатуру заакіянскіх канцэрнаў. Сыходным пунктаў для такіх арыгінальных, на першы погляд, прагнозаў ёсць цяперашні прававы рэжым міжатлантычнага гандлю. Ён дастаткова мяккі і без усякіх TTIP (тарыфы менш за тры працэнты), паколькі ЗША і ўсе краіны Еўрасаюзу — сябры Сусветнай гандлёвай арганізацыі.

У чым у такім разе галоўная сутнасць TTIP? Каб адказаць на гэта пытанне, прапануецца паглядзець на статыстыку ўзаемных інвестыцый. Першага погляду дастаткова, каб заўважыць розныя інвестыцыйныя прыярытэты паміж амерыканскімі бізнесменамі і іх еўракалегамі. Першыя ў 2–3 разы актыўней на еўрапейскім рынку. Слабы інтарэс еўрапейцаў да ўкладання сродкаў у амерыканскі рынак дазваляе казаць пра тое, што TTIP — інструмент эканамічнай каланізацыі ЕС.

Галоўнай зброяй амерыканцаў для захопу еўрарынкаў, быццам, ёсць супярэчлівы пункт у дамове, што называецца Investor-state dispute settlement (ISDS). ISDS дазваляе фірме, якая працуе ў Міжатлантычнай вольнай гандлёвай зоне, судзіцца з урадам краіны, дзе яна працуе, не па месцы працы. За кошт ISDS кампаніі могуць дзейнічаць цалкам аўтаномна ад мясцовых адміністрацый і з часам нават браць іх пад кантроль. Найбольш гучна супраць TTIP пратэстуе Будапешт. «Не магу падтрымаць дамову пра вольны гандаль, якая пазбаўляе венгерскае права магчымасці судзіць гандлёвыя спрэчкі», — заявіў на днях венгерскі прэм'ер. Хаця Орбан — палітык правых поглядаў, у гэтым пункце яго падтрымліваюць шматлікія еўрапейскія прафсаюзы. ISDS змяншае іх шансы цiснуць на дырэктарат прадпрыемстваў праз суды.

Ёсць і іншыя негатыўныя рэчы. Напрыклад, італьянскія аграрыі вельмі незадаволеныя тым, што кампаніі, якія зарэгістраваныя за акіянам, атрымаюць магчымасць прадаваць на еўрапейскім рынку забароненыя тут генетычна мадыфікаваныя прадукты. Прычым тыя прадукты могуць называцца «пармезан» або «мацарэла». Шэраг правінцыйных муніцыпалітэтаў Італіі нават прынялі агульны вотум недавеaccording TTIP.

Апафеоз канфлікту аматараў і крытыкаў Міжатлантычнага партнёрства прыйдзецца на май, калі Еўракамісія збіраецца падсумаваць заўвагі экспертаў. Пасля, тэарэтычна, павінна пачацца заканадаўчая працэдура. Аднachасова ў красавіку прафсаюзы, эколагі і грамадскія ініцыятывы пастараюцца сарваць гэты працэс масавымі маніфестацыямі. Дзень агульных акцый супраць TTIP у Еўропе і ЗША прызначаны на 18 красавіка. У сваю чаргу, Еўракамісія збіраецца сабраць грамадскі форум, каб растлумачыць сэнс рэформаў.

Аднак пахаваць TTIP можна без усякіх маніфестацый і мабілізацый на стадыі ратыфікацыі ў нацыянальных парламентах ЕС. Заканадаўства некаторых краін Еўрасаюзу патрабуе, каб законы аб замежным гандлі ратыфікаваў выключна парламент (напрыклад, так запісана ў Канстытуцыі Францыі).

З улікам росту еўраскептыцызму ў некаторых краінах Еўропы, шансы ў TTIP атрымаць падтрымку ў Грэцыі або нават Францыі невысокія. Акрамя таго, ужо зараз відавочна, што фармальная неабходнасць ратыфікацыі Міжатлантычнага партнёрства на месцах дае малым суб'ектам ЕС магчымасць шантажыраваць Брусэль і Вашынгтон. Напрыклад, за падтрымку TTIP у мінулым лістападзе балгарскі ўрад патрабаваў ад ЗША адмены візавага рэжыму для балгарскіх грамадзян.

Таксама не зразумела, што рабіць з краінамі, якія маюць з ЕС рэжым гандлёвай асацыяцыі. Фактычна, тая ж Турцыя або Украіна змогуць праз ЕС, куды яны экспартуюць тавары без пошлінаў, выходзіць на амерыканскі рынак. Адным словам, у TTIP пакуль шмат незразумелага.

# «Вясёлы талібан»

Алег НОВІКАЎ

**У прэзідэнты Казахстана ідзе Мурат Целібекаў. Адны лічаць яго аферыстам. Другія бачаць у ім агента спецслужбаў. Нарэшце, трэція мяркуюць, што Целібекаў спрабуе змагацца з дыктатурай Назарбаева метадамі Хаджы Насрэдзіна і Алдара-Касэ.**



**Хтосьці лічыць, што Целібекаў — аферыст, які выкарыстоўвае інтарэс на Захадзе да праблемаў мусульман. Карыстаючыся брэндам СМК, яму, маўляў, лёгка атрымаць запрашэнне ў заходнія сталіцы**

«Вы карыстаецеся абсалютным даверам у народзе, маеце калясальны вопыт эфектыўнага кіравання грамадой. У самыя цяжкія часы пад вашым кіраўніцтвам казахі пераадолелі ўсе выпрабаванні. З вашым прозвішчам усе звязваюць надзеі на беспрэцэдэнтныя эканамічныя поспехі, сацыяльны дабрабыт, стабільнасць, упэўненасць». Калі вы думаеце, што гэта панегірык Назарбаеву, дык памыляецеся. Тэкст адрасаваны старшыні Саюза мусульман Казахстана (СМК) Мурату Целібекаву, дасланы звычайнымі грамадзянамі краіны. Прынамсі, так сцвярджае сам кіраўнік СМК, які, атрымаўшы зварот, вырашыў падацца ў прэзідэнты.

Саюз мусульман Казахстана (СМК) быў заснаваны былым журналістам Муратам Целібекавым у 2004 годзе. Арганізацыя спрабавала атрымаць рэгістрацыю афіцыйнага рэлігійнага аб'яднання, аднак спробы не мелі поспеху. Больш таго, Духоўнае кіраўніцтва мусульман Казахстану прыстрашыла Целібекава судовым іскам. «Мусульмане» адступілі, аднак у выніку рэгістрацыю атрымалі пад назвай «Прыватны фонд — СМК». Паводле статуту Саюза мусульман, галоўнай мэтай аб'яднання з'яўляецца «каардынацыя намаганняў грамадзян Рэспублікі Казахстан і спонсараў у аказанні матэрыяльнай і духоўнай падтрымкі грамадзянам Казахстана, а таксама фарміраванне развітой асобы».

На практыцы «каардынацыя намаганняў» і «фармаванне развітой асобы» вылiваюцца ў няспынную плынь сенсацыйных публічных заяў, якія з-за сваёй экзатычнасці лёгка прарываюць інфармацыйную манаполію дзяржаўных СМІ, трапляючы на старонкі таблоідаў. Напрыклад, некалькі гадоў таму Саюз мусульман Казахстана адзначыўся законапраектам аб крымінальным пакаранні за непрыстойныя жэсты на «высокапастаўленых асоб» (нагодай для гэтай ініцыятывы стаў сярэдні палец жыхара Паўладара, выстаўлены ў бок картэжу старшыні верхняй палаты парламента, за што грамадзянін атрымаў 5 сутак арышту). СМК патрабаваў унесці ў спіс «забароненых дзеянняў» у тым ліку «дэманстратыўнае калупанне ў носе» і «чханне ў напрамку высокапастаўленых асоб».

Пазней Саюз мусульман прапанаваў караць смерцю прэзідэнтаў-доўгажыхароў, калі тыя захочуць кіраваць краінай у старэчым узросце. Для гэтага прапаноўвалася ўнесці ў канстытуцыю папраўку аб абавязковым смяротным пакаранні кіраўнікоў дзяржавы ў 80 гадоў. У заяве СМК гаворыцца: «Паводле даследаванняў навукоўцаў, крытычным для чалавека з'яўляецца ўзрост 80 гадоў. Пасля яго дасягнення, пачынаецца імклівая дэградацыя асобы. Чалавек, старэйшы за 80 гадоў, не здольны кіраваць краінай. На жаль, гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі дзяржаўныя дзеячы з-за старэчай прыдуркаватасці даводзілі грамадства да поўнага хаосу. У выпадку, калі кіраўнік дзяржавы па дасягненні 80-гадовага ўзросту імкнецца і далей кіраваць краінай, ён павінен быць пакараны незалежна ад яго жадання».

Такога кшталту заяваў было вельмі шмат, і падавалася, грамадства даўно павінна скласці ўяўленне пра СМК. «Вясёлы талібан», — так пракаментаваў адзін з блогераў заклік Саюза мусульман пабудаваць пантэон нацыянальных герояў на Месяцы. Гэта была рэакцыя СМК на патрабаванне прэм'ера — выбраць месца для пахавання герояў Казахстану. У сваёй прапанове Саюз мусульм кіраваўся тым, што «размяшчэнне пантэона на Месяцы дазволіць усяму чалавецтву захапляцца месцам пахавання вялікіх казахаў, не выходзячы са сваіх кватэр».

Некаторыя лічаць, што Целібекаў выкарыстоўвае методыку Хаджы Насрэдзіна і Алдара-Касэ — герояў фальклору, якія лёгка падманвалі ханаў і баеў за кошт лісліваcці і выкарыстання дыскурсу ўлады.

Хтосьці лічыць, што Целібекаў — аферыст, які выкарыстоўвае інтарэс на Захадзе да праблемаў мусульман. Карыстаючыся брэндам СМК, яму, маўляў, лёгка атрымаць запрашэнне на розныя форумы ў заходніх сталіцах.

Праўда, гэта яшчэ бяскрыўдная трактоўка ўчынкаў Мурата Целібекава. Сярод часткі казахскай апазіцыі распаўсюджана думка, што СМК — структура, сфармаваная ўладай. Пры гэтым, як правіла, спасылаюцца на шэраг супярэчнасцяў у дзейнасці СМК. Так, арганізацыя робіць заявы на грані фолу, якія лёгка пры жаданні прыцягнуць пад артыкул «Абраза асобы Елбасы». Аднак лідар СМК ніколі не быў аб'ектам праследу з боку казахскай Феміды. Тая нават не паспрабавала пазбавіць яго структуру рэгістрацыі.

Нашто Назарбаеў у такім выпадку трымае СМК? Па-першае, Саюз можа быць заклікан дыскрэдытаваць мусульманскі рух. «Самы просты аналіз яго выказванняў і дзеянняў кажа не толькі пра імкненне раскалоць мусульманскую суполку. Відавочна, што Мурат Целібекаў у свой час пралічыў, што вельмі зручная ніша «ўшчэмленых» вернікаў дазволіць як прыцягнуць да сябе ўвагу СМІ, так і ўнесці раскол і сумятню ў шэрагі мусульман. Заадно, можна будзе і свет пагглядзець», — піша адзін з яго крытыкаў.

Цяпер прыхільнікі думкі па тое, што СМК — марыянетка Акорды (так называюць адміністрацыю Назарбаева), атрымалі яшчэ адзін доказ. Целібекаў вырашыў балатавацца ў прэзідэнты, што ў вачах грамадства выглядае вельмі супярэчліва. Датэрміновыя выбары прэзідэнта, прызначаныя на красавік, нават сама ўлада называе рэферэндумам аб даверы Назарбаеву. Як следства, жадаючых удзельнічаць у кампаніі з загадзя вядомымі вынікамі сярод палітыкаў няма. Дэфіцыт спарынг-партнёраў улада вымушана кампенсаваць за кошт каго-небудзь, прычым кастынг праводзіцца самым незвычайным спосабам. Паводле інфармацыі на сайце «Respublica-kz», у кандыдаты на прэзідэнта давялося запісацца нейкаму гандляру, які мае доўг дырэкцыі рынку.

Сам Целібекаў, аднак, не лічыць, што робіць масоўку для Назарбаева. У інтэрв'ю інтэрнэт-парталу Zona.kz ён заявіў: «Гэта (удзел у кампаніі) цалкам дастойная рэч. Я хачу стаць для моладзі прыкладам таго, што ў людзей павінны быць амбіцыі. Яны павінны навучыцца ўздымаць планку вышэй, чым гэта ім ставяць тыя, хто ў гэтым не зацікаўлены. Вельмі лёгка кіраваць рабамі, якім загадзя вызначылі іх месца ў жыцці і якія з гэтым пагадзіліся». У выпадку рэгістрацыі ў якасці кандыдата Целібекаў абяцае электарату як мінімум выклікаць Назарбаева на тэлевізійныя дэбаты.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Каламойскі



Украінскі алігарх, губернатар Днепрапятроўскай вобласці, замахнуўся на выніκі прыватызацыі 1990-х гадоў, на базе якой ва Украіне склалася цяперашняя алігархічная сістэма і яе палітычная надбудова. Ён асабіста наведаў пасяджэнне парламенцкай камісіі па прыватызацыі, каб распавесці пра нейкія шакіруючыя эпізоды распродажу дзяржаўнай маёмасці ва Украіне ў часы Леаніда Кучмы. Калі верыць дакладчыку, прыватызацыя асноўных актываў дзяржавы праходзіла абсалютна не празрыста. Каламойскі заявіў, што штомесяц перадаваў зяцю Кучмы Віктару Пінчуку 5 мільёнаў долараў за права кіравання кампаніяй «Укрнафта». Шматлікія прадпрыемствы, па словах Каламойскага, папросту кулуарна дзяліліся і пасля выкупаліся па намінальным коште. Паводле вынікаў дакладу Каламойскага Барыс Філатаў, кіраўнік камісіі, анансаваў стварэнне рабочай групы па праверцы законнасці прыватызацыі ўсіх вядучых кампаній, і нават комплексаў і зямель Акадэміі навук. На думку большасці, Каламойскі задумаў рэпрыватызацыю актываў. У любым выпадку, Каламойскі паставіў Пятра Парашэнку, з якім вядзе негалосную барацьбу, перад выбарам: альбо кампанія з незаконна нажытымі капіталамі і іх уладальнікамі, што прадугледжвае пачатак рэпрыватызацыі і маштабны перадзел уласнасці, альбо публічнае абвінавачанне ў невыкананні сваіх абавязкаў.

### Рут Коліян



Ізраільскі палітык, кандыдат у Кнесет ужо ўвайшла ў гісторыю, бо стала першым у гісторыі краіны лідарам партыі жанчын-хасідаў (артадаксальная плынь у іудаізме). Партыя была створаная яшчэ ў студзені гэтага года і называецца «B'Zechutan». Яе галоўнае патрабаванне — перагледзець нормы стаўлення да жанчын у грамадзе хасідаў. Традыцыйна, жанчынам прапануецца роля хатняй гаспадыні. Жанчыны практычна не маюць правоў пры падзеле сумеснай маёмасці ў выпадку разрыву шлюбаў, таксама абмежаваныя ў правах маці, якія ў адзіночку выхоўваюць дзяцей. Застаецца сказаць, што кансерватыўныя рабіны не сталі спакойна назіраць, як расце свядомасць жанчын. Адразу пасля стварэння «B'Zechutan» Рут і яе сяброўкам (дарэчы, зараз у партыі 300 сяброў) сталі пагражаць выключэннем з хасідскай грамады. Пасля таго, як грамадскасць падтрымала актывістак «B'Zechutan», ультраартадоксы адмовіліся ад пагроз. Мае сэнс дадаць, што традыцыйна інтарэсы ўльтраартадоксаў у Ізраілі прадстаўляе блок «Яхадут ха-Тора», які падтрымлівае вядучую ў Ізраіле правую партыю «Лікуд».

### Эсперанса Агірэ



Кандыдат у мэры іспанскай сталіцы ад кансерватыўнай урадавай Народнай партыі арыгінальна пракаментавала вынік паўфіналу кубка Іспаніі па футболу, па выніках якога ў фінал выйшлі клубы «Атлетык» з баскскага гораду Більбаа і каталонская «Барселона». Паколькі фанаты абодвух клубаў вядомыя сімпатыямі да сепаратыстаў, відавочна, што фінальная сустрэча будзе вялікай палітычнай маніфестацыяй супраць палітыкі цэнтру. «Зноў гэтыя два клуба дайшлі да фіналу Кубка Іспаніі. Заўзятары гэтых клубаў скарыстаюцца фінальным матчам, каб паказаць сваю нянавісць: асвішчуць гімн і караля Іспаніі. Лічу, што гэта прамая праява варожасці да іншых іспанцаў, якія не павінны цярпець гэта злачынства. Заклікаю «Барселону» і «Атлетык» адмовіцца ад удзелу ў гульнях чэмпіянату», — заявіла Эсперанса. Незвычайную прапанову кандыдата ў мэры Мадрыду актыўна каментуюць не толькі аматары футбола, якія, натуральна, лічаць гэта праявай непавагі да спартоўцаў, што змагаліся за выхад у фінал. Мэр Барселоны назваў словы Эсперанса «правакацыяй». А палітолагі кажуць, што дэмарш палітыка сведчыць пра хаос у калідорах улады перад майскімі выбарамі, фаварыты якіх — левая вулічная апазіцыя.

# Дзядзька Рыгор

## ДЗЁННІК ВЫБРАНЫХ СУСТРЭЧ

**Працяг. Пачатак у №№ 7, 8**

Сяргей ШАПРАН

### 2006

**23 сакавіка.** У гэтыя дні на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску начуюць людзі — на знак пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Разам з маім сябрам Андрэем Палудам, які таксама начуе на плошчы, былі ў Барадуліна ў бальніцы, расказалі пра апошнія падзеі — колькі чалавек затрымана, якое беззаконне адбываецца, бо гвалтоўна затрымліваюць і садзяць нават тых, хто нясе ежу пратэстоўцам. Барадулін падпісаў сваю новую кнігу «Быць! То Ве!» Андрэю: «Нязломнаму, мужнаму змагару Андрэю Палуду — з захапленьнем! Жыве Беларусь!»



**Разам з Уладзімірам Някляевым і Генадзем Бураўкіным**

**24 сакавіка.** Быў у Барадуліна ў бальніцы — прыносіў вычытаць тэкст яго звароту, які Андрэй Палуда павінен перадаць кандыдату ў прэзідэнты Аляксандру Мілінкевічу, каб ён зачытаў падчас мітынгу. Дзядзька Рыгор уже ведаў, што сёння ноччу АМАП ліквідаваў намётавы гарадок на Кастрычніцкай плошчы; па розных ацэнках, затрымана ад 200 да 300 чалавек. Андрэя не затрымалі толькі таму, што ён у той момант не быў на плошчы. Казаў пасля, што яны мелі інфармацыю пра тое, што намётавы гарадок збіраюцца ліквідаваць толькі наступнай ноччу. Цяпер жа дужа перажываў, што яго не арыштавалі разам з іншымі. Выслухаўшы гэта, Барадулін прасіў перадаць, каб ён выкінуў гэтыя думкі з галавы, казаў, мудра ўсміхнуўшыся: «Перадайце: трэба быць на волі, каб рыхтаваць волю».

Ніжэй тэкст звароту, падмуркам для якога сталася маё з Барадуліным інтэрв'ю двума днямі раней:

«Каб не мае гады і здароўе дазваляла, я таксама прыйшоў бы цяпер на плошчу. Але душою я разам з вамі.

Уладам даўно трэба было б задумацца, чаму так адбываецца ў нашай краіне: чаму моладзь выходзіць на плошчу?.. Таму што яна сама хоча вырашаць уласны лёс, сама хоча будаваць сваю дзяржаву.

Я заўсёды паўтараю, што беларусы — эксперыментальная нацыя ў Бога. І калі робіцца эксперымент, дык ён робіцца на добры вынік. Толькі пытанне: колькі будзе працягвацца гэты эксперымент? Аднак не вечна ж будзе цягнуцца такая ноч — і на Беларусі паўстане раніца. Тым больш, што сёння жаданне набыць свабоду моцнае як ніколі дагэтуль. І не меней моцная надзея, што сумеснымі высілкамі свабоды мы зможам дабіцца. На карысць гэтага сведчыць тое, якія неадэкватныя да злачыннасці меры прадпрымаюцца цяпер уладамі. Гэта азначае, што ўлада, урэшце, адчула, што яна — не вечная... Я прыгадваю свае маладыя гады — у той час мы збіраліся па некалькі чалавек і на кухнях. І ніколі не было, каб на вуліцы выходзіла такая колькасць людзей, колькі ўвесь гэты тыдзень збіралася на плошчы.

Наогул кажучы, з нашай свабодай тая ж сітуацыя, як і з нашай мовай: колькі б яе ні тапталі, колькі б яе ні драталі, яна ўсё роўна прабіваецца праз усе пласты ціску і прыгнёту — як тая трава, якая, імкнучыся на волю, прабівае асфальт. Пры гэтым імкненне да волі рухае кожнай травінкай. І наогул, усё жывое прагне волі. І чым больш яго ціснуць, тым больш яно пярэчыць. Так і маладыя нашы — яны не хочуць скарыцца. Але дзеля таго трэба мець свабодную душу — нельга пускаць душу ў няволю. І тады волі яна абавязкова даб'ецца.

За нашу Волю!
Жыве Беларусь!
Рыгор Барадулін».

**30 лістапада.** У Палацы мастацтва адбылася творчая вечарына Генадзя Бураўкіна з нагоды яго жнівеньскага 70-годдзя. Прыйшоў і казаў слова таксама і Барадулін: «Шаноўнае спадарства, віншую вас са святам паэзіі, са святам паэзіі Генадзя Бураўкіна. (Апладысменты.) Генадзь Бураўкін — гэта цэлая эпоха ў нашым Адраджэнні. Там, дзе быў Генадзь Бураўкін, была Беларушчына. Дзе б ён ні працаваў, там была Беларушчына. Генадзь Бураўкін зрабіў беларускім тэлебачанне. Генадзь Бураўкін некалькі дзесяцігоддзяў калыхаў нашых дзяцей — будучых барацьбітоў за Беларушчыну сваёй «Калыханкай». Дзякуй табе... [(Апладысменты.) Бураўкін: «Вы рабіце, мы вам падпяём». (Смех у залі.)] Генадзь Бураўкін у свой час зрабіў часопіс «Маладосць» лепшым, прэстыжным часопісам Беларусі, дзе гартаваліся беларускія кадры паэзіі. Генадзь Бураўкін, калі быў у ААН, першы падаў руку нашай эміграцыі літаратурнай. Там, дзе быў Бураўкін, была мудрасць і павага. Генадзь Бураўкін, як паэт, як палітык шырокага маштабу — пасля Адамовіча і Васіля Быкава, — знакавая постаць у нашым беларускім жыцці. Вершы Генадзя Бураўкіна трэба чытаць душой, ён не піша вершаў — ён іх выдыхае. Ён піша, што «іду да вершаў пешшу». Я яму пажадаю, каб ён яшчэ доўга, каб яго ногі [на запісу неразборліва] да выдатных вершаў. (Апладысменты.) 28 жніўня гэтага года ў нуль тры я пісаў верш яму, я пачытаю:

**Вырай зорны**

***Генадзю Бураўкіну***

*Хай час рукой прысталай*
*Круціць жорны*
*І пыцель высыпае*
*Нам на скроні.*
*На шлях дабраслаўляе*
*Вырай зорны,*
*Мы ў найжаданейшым*
*Самапалоне*

*Крывіцкае зямлі*
*І наскай мовы.*
*Пакуль з дазволу Звышняга*
*Жывыя,*
*Схіляем перад воляю галовы.*
*А хіжы здраднік*
*Хай ад злосці вые.*

*І дрэва Беларушчыны святое*
*Падрыць не змогуць*
*Прыхадні лычамі.*
*Не звыклі быць*
*Ні ў кога пад пятою*
*Усе, хто ў свет прыходзіць*
*Крывічамі!*

У заключэнне такая:

*І ў Запарожжы, і ў Канадзе*
*Чытаюць і пяюць Генадзя.*
*Ёсць у класіцы папраўкіна*
*Неўтаманавага Бураўкіна».*

### 2007

**22 лютага.** Тэлефанавала Ала Сакалоўская, укладальніца кнігі «Ксты», — Барадулін у рэанімацыі. А восьмай раніцы ў яго быў прыступ, Сакалоўская ж пазваніла яму а адзінаццатай. Мусіць, гэты званок і выратаваў яго. Справа ў тым, што ўчора я бачыў у «Акадэмкнізе» кнігу пра паэтыку Барадуліна, пра што і казаў яму ўвечары. Тады ж ён папрасіў Сакалоўскую набыць гэтую кнігу, але Ала Станіславўна, забыўшыся назву, сёння нараніцы пазваніла, каб удакладніць. Валянціна Міхайлаўна адказала, што Барадулін спіць. Сакалоўская патэлефанавала яшчэ раз праз пятнаццаць хвілін. Валянціна Міхайлаўна пайшла будзіць, аднак Барадулін быў у непрытомнасці, і Валянціна Міхайлаўна выклікала «хуткую дапамогу».

**28 лютага.** Званок ад Алы Станіславаўны: у Барадуліна пнеўманія самой цяжкой формы, ставяць па шэсць кропельніц у дзень. Сакалоўская казала яшчэ, што дзядзька Рыгор перадаў ліст з вершам пра Хрыста, які напісаў чатыры дні таму. Яго сутнасць: гэта Бог пакінуў Барадуліна на зямлі. Пасля ўжо даведаюся, што размова ішла пра верш «Як па сухому...» (калі пазней убачыў дзядзьку Рыгора, дык ён сказаў: «Я ўсё думаў, што ён мне сніцца, і баяўся, што забуду яго, паколькі не было чым запісаць»):

*Дзень, як сын дачаканы, падрос.*
*Ціша стому вярнула дадому.*
*І ступаў малады Хрыстос*
*Па вадзе, як па сухому.*

.............................

*Ростань выкне вініць успамін.*
*У сустрэчы сцежка крывая.*

*Калі Госпаду верыш, як Сын,*
*Дык цябе і вада трымае...*

**2 сакавіка.** Быў у Барадуліна ў бальніцы, папрасіў адказаць на некалькі пытанняў для «Народнай волі»:

***— Ці памятаеце, што з вамі здарылася?***

— Не памятаю. Справа ў тым, што першыя два дні я думаў, што гэта мне толькі сніцца, і ўсё хацеў пераказаць гэты сон. Ужо калі спытаў, дзе знаходжуся, пачуў у адказ, што ў бальніцы.

***— Напэўна, гэта Бог дазволіў вам яшчэ пажыць.***

— Так-так, гэта Усявышні дазволіў мне пабыць на гэтай зямлі і нешта дарабіць. Мне шмат што яшчэ хочацца зрабіць. Самы галоўны мой клопат — гэта «Вушацкі словазбор». Дый вершы хочацца яшчэ пісаць. Думаю, што Усявышні таму і дазволіў мне яшчэ пажыць, каб я паспяшаўся завяршыць свае зямныя справы...

### 2009

**14 сакавіка.** Прывёз Барадуліну першы том сваёй кнігі пра Васіля Быкава. Гаварылі пра задуму маскоўскага выдаўца Барыса Пастэрнака (які, дарэчы, паходжаннем з Беларусі) падрыхтаваць кнігу выбранай паэзіі Барадуліна да яго 75-годдзя (Алесь Пашкевіч прапанаваў зрабіць яе білінгвічнай, беларуска-рускай). Дзядзька Рыгор не быў супраць таго, каб укладальнікам кнігі выступіў я. Разам выбралі яго кнігі на рускай мове. Барадулін прасіў найперш звярнуць увагу на пераклады. Што ж тычыцца беларускіх арыгіналаў, дык казаў у некаторай разгубленасці: «Лепш жа я не напішу...» Апроч таго, папрасіў перадаць ліст Б. Пастэрнаку:

«Дорогой Борис!

До глубины души тронут вашим вниманием. Спасибо, что не забыли непоправимого мечтателя, который верит до седой бороды, что поэзия ещё кому-то нужна!

Низкий поклон!

Рыгор».

**3 мая.** Патэлефанаваўшы Барадуліну, папрасіў яго сказаць колькі слоў з выпадку сямейнага юбілею Юліі Якаўлеўны і Генадзя Мікалаевіча Бураўкіных (яны разам пяцьдзясят гадоў). Дзядзька Рыгор прасіў перадаць пазней і ўжо ўвечары прачытаў:

*Чароўная Юля і мудрэйшы Генадзь,*
*Ад гэтага юбілею*
*Яшчэ два дзясяткі гнаць,*
*Хай чорная зайздрасць шалее.*
*Лагоды і згоды*
*Вам назаўсёды!*

**17 кастрычніка.** Калі быў у Барадуліна, не стрымаўшыся, заўважыў адносна яго перакладаў: «Дзядзька Рыгор, чытаю вас па-беларуску і разумею: вялікі паэт; чытаю па-руску і бачу: сярэдненькі паэт». На гэта Барадулін нечакана адказаў: «Я ведаю. Па-руску я шэранькі паэт». Праўда, абодва мы сышліся на тым, што найлепшы яго перакладчык — гэта, канешне, Ігар Шклярэўскі.

**Заканчэнне будзе**

# Стагановічы: успаміны з жыцця і жыццё ўспамінаў

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**У гэтым годзе ўпершыню будзе ўручана прэмія за лепшую кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў. Але чый гонар ушаноўваецца прэміяй?**

Цягам апошняга дзесяцігоддзя айчынная мемуарыстыка ўзбагацілася заўважнай колькасцю новых тэкстаў. Не апошнюю ролю ў гэтым працэсе адыграла запачаткаваная выдавецтвам «Лімарыус» кніжная серыя «Беларуская мемуарная бібліятэка». Сярод першых кніг у ёй былі ўспаміны раней зусім невядомых аўтараў: спачатку ў 2011 годзе пабачылі свет «Успаміны пасла» Аляксандра Стагановіча, а ў наступным годзе выйшлі «Мае ўспаміны» яго жонкі Марыі.








Дзеці Стагановічаў у Нямеччыне пасля прыходу амерыканскай арміі

## Аляксандр Стагановіч

У сваіх успамінах Аляксандр Стагановіч піша: «У вёсцы Нясутычы Гарадэчанскай воласці Навагрудскага павета Менскай губерні 25 студзеня 1890 г., ад маткі Паўліны з дому Родзькаў і бацькі Лявона прыйшоў на гэты свет другім па чарзе, але першым сынам я, Аляксандр. У той час бацька мой быў заможным селянінам на ўсю ваколіцу. Здавалася, што маё жыццё на гэтым свеце добра забяспечана.

Як мне было тры гады, сталася вялікае няшчасце ў нашай сям'і: на працягу аднаго года памерлі мой дзед і бацька, які лячыўся ў Вільні ў шпіталі св. Якуба, а таксама мой малодшы брацік. У тым жа годзе здохла чатыры валы, двое коней, пяць кароў, васямнаццаць свіней, збожжа на полі разакралі.

Пасля гэтакага вялікага няшчасця і маладога веку мае маткі мы засталіся на сваёй собскай 6½ гект. гаспадаркі, а арандаваную зямлю, у ліку 34½ гект., абшарнік аддаў другому. Пачалося новае жыццё, якое нельга назваць жыццём, а існаваннем».

З пачаткам Першай сусветнай маладзён апынуўся ў царскім войску, разам з якім адведаў Грэцыю, Італію, Францыю. Вярнуўся ў 1920 годзе ўжо ў іншую краіну, але сялянскія праблемы засталіся тыя самыя:

«...Мы адчулі, што мы павярнуліся ў свой родны край, каб разам з сваім народам перажываць нечуваны глум, здзек, гвалт, а нават кулю толькі за тое, што ты гутарыш сваёю роднаю мовай, маеш свае звычаі, абычаі, абрады, традыцыі і не пагаджаешся з гвалтам, разбоем, несправядлівасцю і не жадаеш мець над сабою няпрошаных варвараў XX стагоддзя».

Аляксандр Стагановіч спрабаваў змагацца з тымі «варварамі». Ён быў знаёмы з рознымі выбітнымі тагачаснымі беларускімі дзеячамі: Антонам Луцкевічам, Ігнатам Дварчаніным, Фабіянам Абрантовічам, Юркам Лістападам ды іншымі.

У 1925 годзе ўступіў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, а праз тры гады быў выбраны дэпутатам ад Навагрудскай акругі ў польскі сейм па спісе «Змагання». Але за два дні да выбараў Аляксандр Стагановіч быў арыштаваны і зняволены. Пасля асабістага заступніцтва маршалка сейму і вызвалення, ён у канцы 1928 года адмовіўся ад дэпутацкага мандату ў знак пратэсту супраць супрацоўніцтва з КПЗБ. Праз некаторы час быў зноў арыштаваны і асуджаны на шэсць гадоў турмы. У астрозе сядзеў з былымі сенатарам Васілём Рагулем, дэпутатам сейму Юрыем Сабалеўскім.

Па вызваленні і да пачатку Другой сусветнай вайны Аляксандр Стагановіч падымаў уласную занядбаную гаспадарку, а ў часе акупацыі кіраваў Беларускай народнай самапомаччу на Навагрудчыне — ратаваў суродзічаў ад новага гвалту. Сын — Леў Стагановіч — згадвае ў сваіх, нявыдадзеных пакуль успамінах, такі выпадак: «З Куравіч прыбягае чалавек у роспачы, што яго сын арыштаваны [немцамі]. Сын у бойцы за дзяўчыну зарэзаў сына савецкага актывіста, пагражае кара смерці або канцлагер. Выхад незвычайны, асабліва бацьку, які любіць закон. Селянін прывозіць гатовую тушу парсюка, разрэзаную напалам. Палавіна — шэфу паліцыі, а палавіна — каманданту мясцовай паліцыі».

Невядома, ці дапамог Аляксандр Стагановіч юнаку і яго бацьку. А вось уласнага старэйшага сына Аляксандра ад канцлагера ўратаваць не змог. Ужо пры канцы вайны сям'я змагла знайсці таго ў Дахаў. Праўда, сам Аляксандр Стагановіч не згадвае гэткія сямейныя справы. Яго ўспаміны прысвечаныя грамадскай дзейнасці. Вось і ў апісанні эміграцыі ён больш зважае на калегаў, знешнія падзеі, палітычныя спрэчкі...

Апынуўшыся ў ЗША, стаў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, Згуртавання беларускіх ветэранаў і епархіяльнай Рады БАПЦ. Ад 1957 года быў намеснікам прэзідэнта Рады БНР... Ён заставаўся беларусам паўсюль, пайшоўшы з жыцця 28 снежня 1988 года ва ўзросце 98 гадоў. Амаль сто гадоў пражыла і ягоная жонка.

## Марыя Стагановіч

Успаміны Марыі Стагановіч — сямейныя, побытавыя, этнаграфічныя — вельмі адрозніваюцца ад успамінаў мужа. Нарадзілася аўтарка ў 1898 годзе ў фальварку Косава ў пяці кіламетрах ад тых самых Нясутычаў, дзе прыйшоў на свет будучы муж. Бацька Марыі Сцяпан Карпузевіч-Борыс, звычайны сялянскі сын, каля 25 гадоў працаваў прыказчыкам у маёнтках графа Храптовіча-Буценева. Менавіта таму сям'я жыла звычайна пры гаспадарскім двары, а пра маці Марыі Ганну казалі, што яна была «не зусім ужо сялянскай жанчынай». Да пачатку Першай сусветнай вайны сям'я Карпузевічаў-Борысаў жыла на Навагрудчыне ў розных месцах: фальварку Косава, фальварку Мураванка (маёнтак Шчорсы), двары Нясутычы (ужо ў валоданнях Гутаровіча).

Нягледзячы на тое, што і Аляксандр, і Марыя паходзяць з Навагрудчыны, менавіта ўспаміны апошняй выглядаюць сапраўдным гімнам гэтаму краю.

«Думаю, што нікога не знойдзецца, каб запярэчыў мне, што наша Беларусь сапраўдная цудоўная байка. Асабліва наша Навагрудчына. Славіцца сваімі пагоркамі, далінкамі ды прыгожа зарослымі ярамі. Цудоўнымі спевамі нашых народных песень: вясельных, Калядных, Велікодных, вясковых і хаўтурных, жніўных, Купальскіх і Пятроўскіх. Ёсць, бывала, чаго паслухаць і пабачыць. Не дзіва, што і днём у супакойную часіну ці ноччу, як жывыя, з'яўляюцца абразкі амаль кожны дзень. І ў сне ўсё, там, у дарагім краі, дзе чалавек радзіўся, узрос, і там жа прыйшлося выйсці замуж, і пражыць у дарагім сэрцу краі 46 год».

У адрозненне ад шмат якіх тагачасных сялянскіх дзяцей, Марыя мела магчымасць вучыцца на прафесійных курсах у Мінску (каля 1912 г.). Напэўна, менавіта наяўнасць крыху большай, як у звычайных тагачасных сялянак, адукацыі спрычынілася да з'яўлення пазней успамінаў. Але напісаныя яны менавіта пра вясковае, сялянскае жыццё.

Традыцыйныя сялянскія ўяўленні пра жыццё, працу, веру былі неад'емнай часткай асобы Марыі Стагановіч. Вось як згадвала пра сваю маці дачка Тамара: «Мама ведала ўсе абрадавыя песні: жніўныя, калядныя, велікодныя, шлюбныя. Іх яна спявала ды расказвала пра абрады: вяселлі, хрэсьбіны, заручыны, а з каляднымі песнямі вучыла нас малітвам. Святочны настрой Калядаў ці Вялікадня пачынаўся з некалькіх дзён падрыхтоўкі да святаў. Мама трымалася ўсіх царкоўных канонаў. Я помню, як перад святам яна пякла булачкі-галушкі, якіх кожны мусіў з'есці па 40 штук. Помню песні валачобныя падчас Велікодных святаў, калядоўнікаў з запаленай зоркай, але асабліва падчас лета ды жніва — песні дажынкавыя». Тыя песні, а таксама апісанні абрадаў, звычаяў, традыцыйных страваў — неад'емная частка ўспамінаў Марыі Стагановіч.

Шчаслівае жыццё разбурылі хвароба маці і Першая сусветная вайна. Вайна прымусіла ўліцца ў хвалю бежанцаў і спыніцца на Смаленшчыне, дзе і памерла маці Марыі. Вайна забрала і жыццё брата Івана, што служыў у войску.

Вярнуцца на радзіму рэшткам сям'і ўдалося толькі каля 1920 года. Прыкладна тады ж, як вярнуўся з Францыі і Аляксандр Стагановіч, з якім Марыя была заручаная раней. У 1922 годзе згулялі вяселле, і ў сям'і Стагановічаў нарадзіўся першы сын Аляксандр (Шура) (1922–1974). Пазней з'явіліся яшчэ Лёва (192–2008), Тамара (нар. 1930) і апошні, ужо ў часе Другой сусветнай вайны, Юрка (нар. 1942).

Успаміны Марыі Стагановіч не даходзяць да вяртання з бежанства, вяселля ды з'яўлення дзяцей. Няма і аповеду пра цяжкасці жыцця адной з трыма дзецьмі на гаспадарцы ў часе зняволення мужа, пра ваеннае ліхалецце ды эміграцыю ў ЗША. Пра ўсё гэта можна прачытаць у мемуарах дачкі Тамары, якія яшчэ дапісваюцца.

Стагановічы — унікальная сям'я. Чатыры яе члены пакінулі па сабе ўспаміны. Акрамя апублікаваных бацькоўскіх, ёсць яшчэ ўспаміны дзяцей Льва і Тамары, што чакаюць публікацыі.

Менавіта Тамара Стагановіч спрычынілася да таго, што ўспаміны бацькоў, напісаныя першапачаткова для дзяцей і ўнукаў, былі апублікаваныя і дайшлі да шырокага чытача.

Удзячная дачка вырашыла ўшанаваць памяць бацькоў яшчэ і заснаваўшы прэмію іх імя за найлепшую кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры. Аўтары згаданых успамінаў відавочна вартыя гэткай увагі. А айчынная непрыдуманая літаратура даўно заслугоўвае ўласнай прэміі.




### Даведка

Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў заснавана ў 2014 годзе для найлепшых беларускіх кніг у галіне непрыдуманай літаратуры ў наступных жанрах: мемуары, успаміны, дзённікі, эпісталярыі, травелогі, біяграфіі, дакументальная проза. На прэмію было вылучана каля 50 кніг, з якіх журы ў красавіку абярэ трох пераможцаў.

Партнёрамі ў арганізацыі конкурсу выступаюць Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», выдавецтва «Лімарыус».

# Беларусы ў Маскве

Аляксей ХАДЫКА

**На расійскім тэлеканале «365» у передачы «Пешком по Москве» прагучала прозвішча Фамы Багдановіча-Дваржэцкага, архітэктара аднаго з двух каталіцкіх касцёлаў Масквы — Беззаганнага зачацця Дзевы Марыі, што на Малой Грузінскай. Мала хто ведае, што архітэктар — беларус, з мсціслаўскай шляхты. А кіраваў будаўніцтвам Аляксандр Лядніцкі, адзін са стваральнікаў партыі кадэтаў, дэпутат I Дзяржаўнай думы ад Мінскай губерні, прыхільнік незалежнасці польскіх, беларускіх і літоўскіх зямель.**



Аляксандр Лядніцкі

## На скрыжаванні часоў

Месца, дзе знаходзіцца сабор, было культавым у неафіцыйнай культуры Масквы 1970–1980-х, бо насупраць, у доме №27, з 1975 года жыў Уладзімір Высоцкі, а ў паўпадвале таго ж дома месцілася зала Маскоўскага аб'яднанага камітэту мастакоў-графікаў, дзе адбываліся выставы мастакоў-нонканфармістаў. Іх так і звалі — «мастакі з Малой Грузінскай».

Я і сам калісьці, стоячы ў даўжэзных чэргах на тыя выставы, назіраў знявечаны на той час, са знесенымі вежамі, але ўсё роўна велічны гмах касцёла. Бо храм зачынілі ў 1938-м, а з 1956-га ім валодаў НДІ «Мосспецпрампраект». Толькі ў 1996-м, пасля 6 гадоў змагання, касцёл вярнулі вернікам.

У 1729 годзе гэты раён быў падараваны збегламу (у выніку канфлікту інтарэсаў паміж Расіяй, туркамі і персамі) грузінскаму цару Вахтангу Леванавічу Баграціёну-Мухранскаму і яго шматлікай свіце. Цару, які першым надрукаваў «Віцязя ў тыгравай скуры» Руставелі і апрацоўваў старыя летапісы. Тут утварылася каля 70 двароў грузін.

Індустрыялізацыя раёна Прэсні і, адпаведна, забудова Малой Грузінскай даходнымі дамамі пачаліся ў 1870-я гады. Зрэшты, як і захады для атрымання зямлі каталіцкім прыходам, які налічваў некалькі тысяч чалавек, у значнай ступені службоўцаў Варшаўскага накірунку чыгункі, распачаліся ў 1894-м.

Грошы на будову храма ўнеслі 30 тысяч чалавек «польскай» абшчыны Масквы. Колькі там было рэальных палякаў, а колькі каталікоў-беларусаў, украінцаў ці літоўцаў — сказаць зараз цяжка. Расійская гістарыяграфія на такія пытанні адказаў звычайна не дае.

## Род і кар'ера

Родапачынальнік Багдановічаў-Дварэцкіх, Сямён Фёдаравіч Дварэцкі, мсціслаўскі шляхціц, жыў у XVI стагоддзі і быў пажалаваны зямлёю ў Аршанскім павеце ў 1554 годзе. Яго ўнукі, Пётр і Ян, сталі пісацца Багдановічамі, і гэты назоў зрабіўся прозвішчам. Частка «Дварэцкі» (з пераходам роду ў каталіцтва) набыла спольшчаную форму. Карысталася сям'я, хутчэй за ўсё, гербам «Лада» (хаця былі іх сваякі, якія насілі гербы «Роля» і «Астоя»).

Сын Юзэфа (Восіпа), апошняга павятовага маршалка віцебскай губерні, Томаш (або ў расійскай версіі Фама Восіпавіч) нарадзіўся ў Віцебскай губерні ў 1859 годзе. А адукацыю атрымліваў ужо ў Санкт-Пецярбургу, дзе ў 1885-м са званнем класнага мастака архітэктуры 1-га разраду скончыў Імператарскую акадэмію мастацтваў. Ужо ў 1890 годзе ён быў акадэмікам архітэктуры, з 1892-га — ад'юнкт-прафесарам. Выкладаў у Маскве, у Вучэльні жывапісу, ваяння і дойлідства.

Багдановіч-Дваржэцкі назіраў, будаваў і кіраваў рознымі праектамі (Рыжскі вакзал і Дом бясплатных кватэр імя Бахрушыных для ўдоў і сірот у Маскве), але ў асноўным праславіўся як праектант неагатычных касцёлаў, з якіх найбольш вядомыя — у Самары і Маскве.

Яго кар'ера рухалася паспяхова. Фама Восіпавіч з 1899-га — сябра Архітэктурна-тэхнічнага савету Будаўнічага аддзелу Маскоўскай гарадской управы, чалец Конкурснага сходу Строганаўскай вучэльні, захавальнік музея пры той жа ўстанове. Нарэшце, сябра Маскоўскага архітэктурнага таварыства і ўладальнік уласнай сядзібы ў Малым Васільеўскім завулку. Нават і пасля 1917 года ягоныя здольнасці спатрэбіліся ў Будаўнічых аддзелах Савета раённых дум Масквы.



Касцёл Беззаганнага зачацця пасля рэстаўрацыі



Карун Нагапецян, лідар 20-кі нонканфармістаў. Арарат. 1978

Зразумела, яго абранне праектантам грандыёзнага касцёла Беззаганнага зачацця Дзевы Марыі на Малой Грузінскай, храма на 5000 вернікаў, сталася невыпадковым. Тым болей, што кіраваў будаўніцтвам ягоны зямляк, ураджэнец Міншчыны, Аляксандр Лядніцкі (15 ліпеня 1866 — 11 жніўня 1934, Варшава). Спаланізаваны беларус, ён пакінуў яскравы след у пераломных дзесяцігоддзі беларускай і польскай гісторыі.

## Лёс Лядніцкага

Пасля заканчэння рускай Мінскай гімназіі, дзе атрымліваў пакаранні за размовы па-польску, адвучыўся на юрфаку Маскоўскага ўніверсітэта. Ужо тады наладзіў сувязі з польскімі нелегальнымі гуртакамі, сышоўся з выдатнымі прадстаўнікамі расійскай інтэлігенцыі і апазіцыйных колаў.

Высланы з Масквы за ўдзел у дэманстрацыі, праз паўгады вярнуўся, ажаніўся з зямлячкай з Беларусі, Марыяй Адляніцкай-Пачобут, і ўжо ў 1889 годзе пачаў юрыдычную практыку. З 1893 года Лядніцкі — сакратар Рыма-каталіцкага дабрачыннага таварыства ў Маскве, з 1896-га — яго прэзідэнт. І калі на чале камітэту па будове новага касцёла стаў прэлат парафіі Антоні Васілеўскі, з юрыдычнага боку апякаць працэс паўстання святыні ўзяўся Аляксандр Лядніцкі.

Чым ён яшчэ цікавы? Заснавальнік партыі кадэтаў. У 1906 годзе, па пратэкцыі знакамітага будаўніка Чырвонага касцёла ў Мінску і шматгадовага лідара Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі Эдварда Вайніловіча, быў абраны дэпутатам I Дзяржаўнай думы ад Мінскай губерні. Там узначаліў Саюз аўтанамістаў (фракцыю, якая ставіла супольный мэтай работы ў Дзярждуме ўвядзенне дэцэнтралізацыі кіравання нацыянальнымі рэгіёнамі імперыі і ўлічванне інтарэсаў нярускага насельніцтва дзяржавы).

Лядніцкі эвалюцыянаваў усё жыццё, і, калі ў верасні 1889 года ён хаваў у сваім маскоўскім доме пасля першых уцёкаў з Сібіры Дзяржынскага, то спрацавацца з савецкай уладай на мяжы 1917–1918 ужо не здолеў, і з кастрычніка жыў у Варшаве.

Яшчэ раней, пад уплывам паразы Расіі ў Першай сусветнай вайне, канчаткова зрабіўся прыхільнікам незалежнасці польскіх, беларускіх і літоўскіх зямель, чаму ўласна і парваў з кадэтамі. У Варшаве яго ўспрымалі прахалодна, асабліва калі ён увайшоў у Польска-беларускае таварыства для палітычнага і культурнага супрацоўніцтва ў Беларусі, створанага для дасягнення федэратыўнага саюза Беларусі і Польшчы і выратавання свабоды і палітычнай незалежнасці першай у саюзе з другой ва ўмовах польска-савецкай вайны 1919–1920-х гадоў. Тут Лядніцкі зноў сустрэўся з Эдвардам Вайніловічам, а таксама з Лявонам Дубейкаўскім і дзеячамі БНР. Канчаткова іх намаганні пахавала Рыжская дамова 18 сакавіка 1921 года.

## Адраджэнне сабора

Але вернемся да архітэктуры. Велічэзны гмах касцёла Беззаганнага зачацця, кошт будаўніцтва якога напачатку XX стагоддзя склаў 300 тысяч залатых рублёў, адраджалі маскоўскія палякі — культурная асацыяцыя «Польскі дом».

12 снежня 1999 года, пасля трох гадоў працы, дзяржаўны сакратар Ватыкану кардынал Анджэла Садана ўрачыста асвяціў сабор. На бакавых вежах адноўлены трохнэфавай крыжападобнай псеўдабазілікі — гербы папы Яна Паўла II і арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

Гэта яшчэ адзін беларус, звязаны з сaборам — гэтым разам службай, калі ён быў старшынёй Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Расійскай Федэрацыі (1999–2005) і ардынарыем ды біскупам-мітрапалітам Архіепархіі Маці Божай (з цэнтрам) у Маскве (2002–2007). Арцыбіскуп спрыяў прыдбанню 5 вялізных катэдральных званоў, адзін з якіх носіць імя Св. Фадзея (Тадэвуша), а 16 студзеня 2005 года асвяціў адноўлены арган.

Здавалася, архітэктара сабора Фаму Багдановіча-Дваржэцкага мы маглі б назваць традыцыяналістам і кансерватарам: у архітэктуры яго твора прачытваюцца формы гатычнага сабора Вестмінстэрскага абацтва, а купал нагадвае навершша Міланскай катэдры.

Толькі такая высновa не зусім справядлівая. Любімы і галоўны вучань Фамы Багдановіча-Дваржэцкага — Канстанцін Мельнікаў, архітэктар, мастак і выкладчык, лідар авангарду ў савецкай архітэктуры 1920–1930-х гадоў. Гэта ягоны Павільён СССР на Міжнароднай выставе сучасных дэкаратыўных і прамысловых мастацтваў у Парыжы (1925) і знакаміты круглы Дом Мельнікава з 6-граннымі вокнамі — маніфесты новага стылю 1920-х. Таго самага, убачыўшы які ў студэнцкіх працах 24-гадовага навучэнца, у 1914-м Багдановіч-Дваржэцкі сказаў знакамітае: «Ёсць штыль!».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 339

Падпісана да друку 13. 03.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.